ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 48 (2398) 1 снежня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 40 рублёў.

АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ

## "ЯК ПОЗНА-ПОЗНА І ЯК РАНА-РАНА..."

У мяне захаваліся фотаздымкі.

Каралішчавічы. Незабыўны наш Дом творчасці. Вакол эпічныя хвоі... І тут жа, на фоне гэтых хвой -- не буйным планам, -- невялікі гурт пісьменнікаў, хто адпачываў у Каралішчавічах тым вераснем 1950 года. Усе мы на здымку такія маладыя! Амаль усе з дзецьмі...

О, бязлітасны час! Я ўглядаюся ў тыя маладыя твары, знаёмыя і цяпер ужо незнаёмыя, нібыта шукаю ў іх адказу: "Калі гэта ўсё здарылася?.. І ў вушах маіх міжволі, як акорд рэквіема, гучыць у адказ: "Як позна-позна і як рана-рана"...

Даўно няма ўжо сярод нас, немаладых і пасівелых, заўсёды насмешлівага жартаўніка Усевалада Краўчанкі з таго здымка. Няма сціплага і негаваркога Пятра Валкадаева - па тым часе яшчэ ў неданошаным вайсковым шынялі... Даўно змоўк назаўсёды нязменна імпазантны "Кабзар" -- Павел Кабзарэўскі. Назаўсёды адышоў Анатоль Астрэйка...

Ды і сам Майстар тых здымкаў, што не забыў ніводнага "в юнашы", ніводнай "атракавіцы" (кожнаму, калі не аддаў асабіста, дык поштай пераслаў здымкі дадому), і сам Майстар даўно пасяліўся ўжо ў засені і гомане іншых хвой -- на Маскоўскіх могілках. "Як позна-позна і як рана-рана..."

* * *

Я не магу пахваліцца, як многія іншыя, ні асабістым сяброўствам, ні простым суседствам ці нейкімі выключнымі стрэчамі з Міхасём Ціханавічам. Я магу толькі бясконца расказваць і з удзячнасцю ўспамінаць пра той след і той уплыў, які пакінуў Міхась Лынькоў -- сваімі творамі, сваімі кнігамі -- у маёй яшчэ дзяцінай, а потым юнацкай ужо душы.

Кажучы пра сябе асабіста, я не стаўлю сябе, аднак, у нейкія выключныя ўмовы, не хачу лічыць сябе выключэннем. Усё маё пакаленне беларускай моладзі даваеннага часу выхоўвалася на творах Лынькова. Мне ўспамінаецца, што ўсім нам тады хацелася жыць жыццём герояў Лынькова. І гэта ішло не проста ад хрэстаматыйных ведаў біяграфіі пісьменніка і яго твораў. Ці мала каго мы "праходзілі" ў школе, ці мала каго вучылі нават на памяць...

Міхася Лынькова на памяць якраз і не вучылі. Ён сам заставаўся ў памяці назаўсёды непадробнай чалавечнасцю і рамантычным узлётам сваіх герояў. Яшчэ не ўмеючы спасцігнуць да канца ўсёй глыбіні людскіх страт і надзей, у шостым класе недзе, мы -- чытачы і вучні Лынькова (бо Лынькова не проста чыталі -- у Лынькова вучыліся) -- ужо тады на ўсё жыццё засталіся мы "Над Бугам", каля смяртэльна параненага чырвонаармейца Ваські Шкетава. Ужо тады назаўсёды запаў нам у душу той яго апошні ўсплёск бязмежнага чалавечага суму: "Як позна-позна і як рана-рана..."

Ужо тады натхняў нас прыклад бясстрашнага Міколкі-паравоза ісці ў жыццё толькі з адвагай і надзеяй.

З той вучнёўскае пары непахісна і безаглядна паверылі мы ў сілу адданага кахання і сяброўства, якія, як сцяг перамогі, неслі над жыццём героі Лынькова.

Які зайздросны пісьменніцкі лёс!

...І нядзіўна, мусіць, чаму потым, калі некаторыя з нас самі пачалі "спрабаваць пер'і", чаму -- у першую чаргу -- імкнуліся мы пачуць адзнаку нашым першым спробам у літаратуры менавіта ў Міхася Лынькова.

Я не была выключэннем.

* * *

Перада мною на стале ляжаць два прадаўгаватыя, ад часу пажоўклыя ўжо -- прыгожыя канверты. Адпраўлены яны былі некалі з вуліцы Берсана ў Мінску на вуліцу Чэлюскінцаў у Курск. На паштовых штэмпелях дата: 24 красавіка і 4 мая, 1948 год...

Сваю аповесць "Шляхі-дарогі", якую напісала, жывучы ў Курску, я паслала ў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва з просьбай абавязкова аддаць яе на чытанне не каму іншаму, а толькі Міхасю Лынькову!

Уявіце сабе гэту маладую адвагу...

У выдавецтве мяне тады добра "памарынавалі", але ўсё ж "волю" маю выканалі. Дзіўна, аднак, не гэта. Дзіўна іншае, што сам Міхась Ціханавіч, завалены ў той час ўласнай пісьменніцкай работай і клопатам у акадэміі, згадзіўся чытаць тыя амаль пяцьсот старонак мае сырое гліны... Паспрабуйце зараз упрасіць каго-небудзь з нашых акадэмікаў, калі ён заняты ўласнымі справамі (а калі і ў каго іх не бывае, тых спраў?), паспрабуйце ўпрасіць яго пачытаць якога-небудзь пачаткоўца...

Вось з тых далёкіх часоў і захаваліся ў мяне два прыгожыя канверты, а ў канвертах на гэтакай жа дасканалай паштовай паперы напісаныя драбнюткім почыркам (бісерам!) пісьмы. Разбор, рэцэнзія, заключэнне - - а ў цэлым -- бясконца тактоўная, глыбокая, пераканаўчая гутарка пра маю першую самастойную сцежку ў літаратуры. (Бо самая першая мая аповесць "У прастор жыцця" была хутчэй рэч перайманая. А тут я размахнулася -- аж на... "Шляхі-дарогі"!).

(Заканчэнне на 6-й стар.).



**Сёлета, як ужо многа гадоў запар, на Стаўбцоўшчыне -- радзіме Якуба Коласа -- прайшло ўшанаванне памяці вялікага песняра.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі "Каласавін" ля ўрачыста адкрытага імі ў Цёмных Лядах мемарыяльнага знака.**

*(Матэрыял пра свята змешчаны на 7-й стар.).*

З ПАСЯДЖЭННЯ РАДЫ ТБМ

## ГОДЗЕ БЫЦЬ ПАПРАСІМЦАМІ!

Адбылася чарговая Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, на якой прагучала занепакоенасць тым, што дзяржаўная моўная палітыка ў Беларусі не ажыццяўляецца належным чынам, а апошнім часам нават інспіруецца пэўнымі сіламі супрацьдзеянне яе ажыццяўленню.

Адкрываючы пасяджэнне, старшыня таварыства Ніл Гілевіч нагадаў, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны -- арганізацыя культурна-асветніцкая, але яна не можа быць абыякавай да падзей, што адбываюцца ў краіне. Яе галоўны клопат на працягу больш як 5 гадоў быў аб тым, каб пашыралася і мацавалася на беларускай зямлі родная беларуская мова. Шлях таварыства ніколі не быў простым, бо праца яго членаў рабілася насуперак сілам, што процістаялі таму, каб беларуская мова была дзяржаўнай. Аднак раней процістаянне было пасіўным. У апошнія месяцы сітуацыя рэзка змянілася. Асабліва пасля няўзважанай заявы нашага Прэзідэнта, з якой стала зразумела, што яго надзвычай мала хвалюе лёс беларускай мовы, беларускай культуры. Адразу яшчэ больш упэўнена загучалі галасы з патрабаваннем дзяржаўнага двухмоўя, перагляду дзяржаўнай сімволікі, карацей, пачаўся адкат назад.

Абураючыся такім становішчам спраў, Ніл Гілевіч падкрэсліў, што годзе ўжо народу быць у ролі папрасімца. Не прасіць, а патрабаваць павінен ён тое, што меў, чым валодаў, але згубіў за доўгія стагоддзі свайго бяспраўнага існавання.

"На Беларусі большасць насельніцтва -- беларусы. І наданне статуса дзяржаўнасці мове іншай краіны -- бязглуздзіца, -- напісалі ў Вярхоўны Савет жыхары вёскі Будслаў Мядзельскага раёна. -- Вынясенне на рэферэндум пытання аб дзяржаўным двухмоўі -- хітрая гульня, якая разлічана на адсутнасць у большасці беларусаў гістарычнай памяці і нацыянальнай самасвядомасці. Гэта злачынная гульня накіравана на тое, каб знішчыць беларускую нацыю рукамі беларусаў".

На шчасце ці на гора, але нарадзіліся мы беларусамі, дык і будзьма імі. Здаецца, нічым не горшыя мы за рускіх, украінцаў, палякаў ці літоўцаў, і ўсё ж, мусіць, горшыя, бо ні адзін з гэтых народаў нават не задумваецца, якую мову лічыць роднай -- сваю ці суседа. Няма, здаецца мне, на свеце больш такога народа, які з вялікай асалодай хацеў бы пазбыцца сваёй адметнасці, сваёй унікальнасці, як да гэтага імкнуцца беларусы.

Шлях беларусізацыі, вяртанне да спрадвечнага, да матчынай мовы натуральны для беларусаў. Памятаю, як перад прэзідэнцкімі выбарамі па тэлебачанні паказвалі дакументальны фільм пра В.Кебіча і як мяне ўразіла тады яго маці -- старэнькая, але жвавая кабета, умудроная жыццём, што не надта песціла яе, яна гаварыла на чыстай беларускай мове. Падумалася тады, што сын яе ў дзяцінстве чуў мусіць менавіта гэтую мову, і калыханку маці яму спявала таксама на роднай мове, дык чаму ж даросламу Вячаславу Кебічу так цяжка было вярнуцца да таго, з чаго ён пачынаўся як чалавек, як беларус. Гэта ж думка ўзнікае і сёння, калі слухаеш палымяныя прамовы першых асобаў нашай дзяржавы. Немагчыма паверыць, што іх роднай мовай з дзяцінства была руская, і тым больш горка чытаць радкі пра тое, што "страсти вокруг языковой проблемы раскалывают общество" (газета "7 дней" N 47, "Бранятся правые, митингуют левые...").

Рада асудзіла непатрыятычныя праявы нацыянальна-дзяржаўнага нігілізму і грэблівага стаўлення да мовы беларускага народа. ТБМ будзе патрабаваць ад усіх дзяржаўных структур і службовых асоб няўхільнага выканання палажэнняў Канстытуцыі нашай краіны, у якіх замацаваны дзяржаўны статус беларускай мовы. Згортванне канкрэтных праграм дзяржаўнай падтрымкі беларускай культуры, кнігавыдання, перыядычнага друку, нацыянальнай сістэмы адукацыі Рада лічыць недапушчальным, таму вырашыла звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з грамадскай ініцыятывай зацвердзіць у Законе аб бюджэце на 1995 год палажэнні, якія гарантавалі б ажыццяўленне законаў аб мове, культуры, адукацыі і г.д.

Народ наш адвучылі думаць, мець уласны пункт погляду, найбольш ён прывык глядзець на начальства і рабіць тое, што загадваюць. А кіраўнікі чамусьці ніяк не здолеюць адчуць адказнасць перад гісторыяй за духоўны стан народа, які яны маюць намер весці да светлай будучыні. Змаганне, якое вядзе ТБМ за ўсталяванне на беларускай зямлі яе спрадвечнай мовы, гэта не проста жаданне, каб кожны беларус загаварыў на матчынай мове. Беларуская мова для беларусаў -- гэта іх суверэннасць, гэта іх годнасць, гэта іх шанц заняць сваё адметнае месца сярод цывілізаваных краін свету.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВЕРДЫКТ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА*

## АДПАВЯДАЕ — НЕ АДПАВЯДАЕ

**Канстытуцыйны суд Беларусі разгледзеў на прадмет адпаведнасці Канстытуцыі Закон аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ад 6 кастрычніка. І вынес свой вердыкт. Суд вырашыў, што ліквідацыя сельскіх, пасялковых, гарадскіх у гарадах раённага падпарадкавання і раённых у гарадах Саветаў супярэчыць Канстытуцыі, паколькі пазбаўляе грамадзян права на самакіраванне ў рамках існуючых адміністрацыйных адзінак. У той жа час Канстытуцыйны суд прызнаў адпаведнымі Канстытуцыі палажэнні закона ад 6 кастрычніка, якія прадугледжвалі ўвядзенне прэзідэнцкай вертыкалі. Такім чынам, за Прэзідэнтам захавалася права прызначаць старшынь аблвыканкомаў, якія ў сваю чаргу будуць прызначаць старшынь выканкомаў гарадоў і раёнаў. Па заканчэнні суда кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Леанід Сініцын заявіў, што ён задаволены рашэннем суда.**

*АДГУКНУЛАСЯ*

## МВФ АДМАЎЛЯЕ

**По вестках з урадавых колаў, у Кабінет міністраў Беларусі паступіла афіцыйнае паведамленне Міжнароднага валютнага фонду аб адмове разглядаць пытанне аб выдзяленні рэспубліцы крэдыту STAND BY і другой часткі крэдыту з Фонду сістэмных пераўтварэнняў (CTF).**

**Раней меркавалася, што МВФ будзе разглядаць гэтае пытанне 15 снежня гэтага года. На рашэнне МВФ паўплываў указ Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі аб зніжэнні цэн на шэраг прадуктовых тавараў. Па названых крэдытных лініях Беларусь павінна была атрымаць 122 мільёны долараў ЗША ў чацвёртым квартале гэтага года і 186 мільёнаў долараў -- у наступным годзе. Частку гэтых сродкаў планавалася скарыстаць з мэтай змяншэння дэфіцыту плацежнага балансу рэспублікі, у тым ліку шляхам аплаты запазычанасці за расійскія энерганосьбіты.**

*"Сёння развіццю ўзаемавыгадных эканамічных сувязяў Польшчы і Беларусі перашкаджаюць, з аднаго боку, прэтэнзіі Расіі на асобыя інтарэсы ў краінах былога СССР, з другога -- дыскрымінацыйныя мытныя бар'еры, пастаўленыя палякамі на шляху беларускіх тавараў. І атрымалася, што Беларусь трапіла ў ізаляцыю. На Усход нашы тавары не пускае Расія, на Захад -- Польшча і яе партнёры на Вышэградскай групе. Паўстае пытанне: куды ж нам падзецца?*

*Расія да раўнапраўнага партнёрства з намі зараз не імкнецца, яе задаволіць хіба толькі інкарпарацыя Беларусі ў састаў РФ. Таму, на маю думку, каб не страціць свой суверэнітэт і хутчэй выбрацца з эканамічнага крызісу, у нас, беларусаў, ёсць зараз адзін з перспектыўных накірункаў -- інтэграцыя ў Цэнтральную Еўропу. Балазе, тут нас яшчэ чакаюць. Прынамсі, польскія парламентарыі заявілі, што гатовы пайсці на гарманізацыю мытнага заканадаўства нашых дзяржаў. Больш таго, Польшча магла б паспрыяць выхаду Беларусі з крызісу. Напрыклад, дапамагчы нам прабіцца на рынкі трэціх краін. Аднак для гэтага нам неабходна далучыцца да так званай Вышэградскай групы, куды ўваходзяць, апроч Польшчы, Венгрыя, Славакія і Чэхія, паколькі паміж гэтымі краінамі існуе дамоўленасць аб узгадненні мытнай і гандлёвай палітыкі".*

*(З інтэрв'ю сакратара Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па прамысловасці Уладзіміра НОВІКА газеце "Звязда").*

*ПРЫНЯТА РАШЭННЕ*

## АБ ПОМНІКУ СКАРЫНЕ Ў МІНСКУ

**У мэтах ушанавання памяці Францыска Скарыны, беларускага першадрукара, вучонага, асветніка-гуманіста і пісьменніка эпохі Адраджэння, Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб узвядзенні ў Мінску ў 1994--1996 гадах яму помніка па праекту, зацверджанаму журы рэспубліканскага конкурсу. Аб гэтым паведаміла прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

**Функцыі заказчыка па будаўніцтву помніка ўскладзены на Мінскі гарвыканком.**

**Фінансавацца работы, звязаныя з будаўніцтвам помніка, будуць за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, Мінскага гарвыканкома і Беларускага фонду культуры.**

**Беларускі фонд культуры адкрые спецыяльны рахунак па збору сродкаў на будаўніцтва помніка Францыску Скарыне.**

*У ФАРМАЦЭЎТАЎ НЯМА СРОДКАЎ*



**Выдатны ўраджай жэньшэню сабралі сёлета ў Баранавіцкім пчолагадавальніку. Але, як гэта часта бывае, узніклі непрадбачаныя праблемы.**

**Працэс вырошчвання жэньшэню доўгі -- шэсць гадоў. Калі ў гаспадарцы закладвалася плантацыя, ад заказчыкаў не было адбою. Сёлета ж, калі паспеў ураджай лекавых каранёў, яны, на жаль, аказаліся нікому не патрэбнымі. Няма сродкаў у беларускіх фармацэўтычных прадпрыемстваў, каб купіць лекавую прадукцыю. Вось і давялося жэньшэняводам шукаць пакупнікоў у далёкіх краях. А між тым жыхары абпаленай Чарнобылем Беларусі лекі з гаючага кораня хутчэй за ўсё не атрымаюць.**

**НА ЗДЫМКУ: загадчыца гадавальніка па вырошчванню жэньшэню Наталля ПАЛУЛЕХ.**

*ЛІТВА — БЕЛАРУСЬ*

## НЕ ПА-СУСЕДСКУ

**Ідэя стварэння ў Віцебску консульства Літоўскай Рэспублікі была выказана на сустрэчы старшыні Віцебскага аблвыканкома Уладзіміра Кулакова з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Літвы ў Беларусі Віктарасам Баўблісам. У ходзе гутаркі быў выказаны намер бакоў садзейнічаць пашырэнню ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. З жалем было адзначана, што сёння ў знешнегандлёвым абароце Віцебшчыны суседка Літва займае толькі 7 працэнтаў. У гэтай сувязі бакі выказалі надзею, што ў бліжэйшай будучыні будуць распрацаваны прававыя дакументы, якія адрэгулююць эканамічныя сувязі Беларусі і Літвы, і падпісаны гандлёвы дагавор паміж дзвюма краінамі.**

*ЛАТЫШСКАЯ ШКОЛА*



**У Віцебску пры консульстве Латвійскай Рэспублікі адкрылася Нядзельная латышская школа. Яе вучнямі сталі як дзеці латышоў, што жывуць у абласным цэнтры, так і беларусаў, рускіх. За час навучання яны змогуць пазнаёміцца з гісторыяй і традыцыямі Латвіі, а таксама навучыцца пісаць і гаварыць па-латышску.**

**НА ЗДЫМКУ: гэты падручнік Тоні ПУТАВАЙ і Іллі ШПАКУ, а таксама іншым навучэнцам падарылі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў Латвійскай Рэспублікі.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ДРУЖБА НА ЎМОВАХ

**Як заявіў на прэс-канферэнцыі віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў, Расія гарантуе нашай рэспубліцы стабільныя пастаўкі газу пры выкананні дзвюх умоў: поўнай аплаты бягучага спажывання газу і прадастаўлення расійскаму боку графіка пагашэння запазычанасці. У гэтым разе ў Беларусі ёсць шанц пралангіраваць сёлетняе пагадненне на наступны год, што дазволіць атрымліваць газ па цане 50 долараў за тысячу кубаметраў пры сусветнай цане 80 долараў за кубаметр. Аднак за нафту прыйдзецца плаціць на ўзроўні сусветных цэн, бо ў Расіі заканчваецца фарміраванне 10 нафтавых акцыянерных кампаній і аб пастаўках "чорнага золата" давядзецца дамаўляцца непасрэдна з імі. Калі зараз рэспубліка купляе нафту ў сярэднім па цане 75 долараў за тону, то ў наступным годзе прыйдзецца плаціць 85--95.**

*ПАВЕДАМЛЕННЕ КДБ*

## ЗЛАВІЛІ ШПІЁНА

**Як паведаміў начальнік прэс-службы КДБ Рэспублікі Беларусь падпалкоўнік Уладзімір Кужанаў, 24 лістапада 1994 года ў горадзе Мінску пры спробе перадачы разведвальных матэрыялаў супрацоўнікам спецслужбаў Турцыі, што дзейнічаюць пад прыкрыццём пасольства ў Беларусі, затрыманы, як устаноўлена, завербаваны імі грамадзянін Рэспублікі Беларусь, жыхар горада Гродна.**

**Па гэтаму факту вядзецца расследаванне.**

*ПАЛЯВАННЕ*

## ЛІМІТ ВЫЗНАЧАНЫ

**Зыходзячы з колькасці жывёл, рэкамендацый вучоных і шматгадовай практыкі, у сёлетнім сезоне плануецца здабыць 1 434 ласі, 3 870 дзікоў, 1 572 казулі і 285 высакародных аленяў. Такі ліміт вызначыла для палявання па ліцэнзіях Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі.**

**Як адзначылі спецыялісты міністэрства, ліміт адстрэлу крыху ніжэйшы, чым у папярэднія гады, што тлумачыцца, у прыватнасці, павелічэннем выпадкаў браканьерства.**

**Па птушцы і пушному зверу абмежаванні ўведзены толькі на дзённую здабычу ў разліку на аднаго чалавека.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НА РЫНКІ ЗША, а потым і Паўднёвай Амерыкі можа трапіць наш БелАЗ. У беларускім суперсамазвале амерыканскім партнёрам падабаецца ўсё, акрамя расійскага рухавіка. Але замяніць яго на амерыканскі нашы белазаўцы не рашаюцца. Перагаворы па гэтай праблеме цягнуцца ўжо два гады.

У БЕЛАРУСІ больш за 700 тысяч сем'яў дзесяцігоддзямі стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. А атрымаць кватэру ўсё менш шанцаў: у параўнанні з 1990 годам будаўніцтва жылля знізілася ў 2 разы.

" НОВЫЯ БЕЛАРУСЫ" -- гэта людзі, якія разбагацелі ў апошнія гады на розных аперацыях "куплю-прадам". Цяпер яны набываюць нерухомую маёмасць за рубяжом. Многа прыстойных вілаў і катэджаў займелі "новыя беларусы" на ўзбярэжжы Іспаніі, але найбольш будуюць дамоў на Кіпры. Тут многа льгот, высокі камфорт і не дакучае мафія.

"ЗАЛАТЫ ГЛОБУС", заснаваны аб'яднаннем прадпрымальнікаў ЗША і Заходняй Еўропы "Фонд Усходняга развіцця", дастаўся полацкаму вытворчаму аб'яднанню "Шкловалакно". Сярод 26 прадпрыемстваў СНД полацкае адзначана гэтым прызам за поспехі па інтэграцыі ў Еўрапейскі рынак, за выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі.

ПОМНІК 697 жыхарам Мозырскага раёна, якія былі расстраляны ў гады сталінскіх рэпрэсій, адкрыты на месцы іх пакарання. Гэта лясная прасека непадалёк ад шашы Мазыр -- Міхалкаўская Рудня.

ВІЦЕБСКІЯ уніяты адзначылі 371-ю гадавіну з дня гвалтоўнай смерці архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча. Адбылася адмысловая літургія ў касцёле святой Барбары. Былі прысутныя госці -- уніяцкія святары з Польшчы і Украіны.

У ВЁСЦЫ Заполле і гарадскім пасёлку Любча, што на Навагрудчыне, цяпер вядуцца здымкі кінафільма "Пракляты ўтульны дом". Гэта будзе шматсерыйная стужка беларускіх кінематаграфістаў пра Тадэвуша Касцюшку.

ДЗЯРЖАЎНЫ лясны біялагічны заказнік "Трывавічы" ствараецца па рашэнню ўрада ў Пінскім раёне. На тэрыторыі Ласіцкага лясніцтва, дзе ён размесціцца, засталіся яшчэ месцы, якія не закранула "суцэльная меліярацыя". Тут ёсць унікальныя пароды дрэў, рэдкія віды жывёл, занесеныя ў Чырвоную кнігу.

ЦАНА кандыдацкай дысертацыі, напісанай адукаваным спецыялістам для гультая-аспіранта, ацэньваецца ў Мінску ў 5 тысяч долараў. Кошт за асобны раздзел альбо рэферат складае не меней за 50 долараў. Выконваюць такую працу беларускія навукоўцы розных ступеняў для айчынных і замежных багатых балбесаў.

# МЫ НЕ ПРОСІМ — МЫ ПАТРАБУЕМ

**"Мы не просім -- мы патрабуем" -- так называецца кніга, выдадзеная Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны, у якой публікуюцца лісты ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, што прыйшлі ад выбаршчыкаў у абарону беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы, супраць юрыдычнага ўвядзення двухмоўя. Гэта кніга -- ужо другое выданне, складзенае з лістоў людзей, заклапочаных лёсам роднай мовы. Сёння мы друкуем толькі некалькі пісьмаў, але і яны дапамагаюць уявіць, чаго хоча, чаго патрабуе беларускі народ.**

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі, а таксама ў публічных выступленнях асобных народных дэпутатаў стала актыўна прапагандавацца ідэя канстытуцыйна замацаваць у Беларусі статус дзяржаўнай за рускай і беларускай мовамі.

Трэба згадзіцца з тым, што сапраўды ў нашай дзяржаве беларуская мова ўжо мала чутна ў вялікіх гарадах, ёю амаль не карыстаюцца кіраўнікі розных рангаў, яна мала ўжываецца ў справаводстве розных дзяржаўных устаноў.

Гістарычна склалася так, што мова карэннага насельніцтва Беларусі страціла прэстыж на сваёй Радзіме, яе саромеюцца часам нават тыя людзі, хто чуў на роднай мове песні маці. А ці ёсць у гэтым віна беларускага народа? Многія дзесяцігоддзі ішоў спланаваны працэс паступовага пераходу на рускую мову ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства.

І толькі мудрае рашэнне нашага вышэйшага органа заканадаўчай улады ў 1990 годзе спыніла разбурэнне беларускага этнасу. Нялёгка ідзе працэс Адраджэння, але ўжо сёння бачны яго станоўчыя вынікі. З'явілася надзея, што Рэспубліка Беларусь адродзіць адабраную раней спадчыну народа -- яго мову. Парасткі адраджэння мовы яшчэ кволыя, і прыняцце ў гэтых умовах закона аб двухмоўі азначае канчатковае знішчэнне беларускай мовы, а значыць, і беларускага народа.

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета, ад вас залежыць сёння лёс, будучыня беларускага народа. Закон аб дзяржаўнасці дзвюх моў стаў бы новым Чарнобылем для беларускай нацыі, у рэактарах якога ў якасці паліва запалала б духоўная шматвяковая спадчына Беларусі.

Мы, студэнты, выкладчыкі, супрацоўнікі Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, звяртаемся да вас з наказам: улічыць катастрафічную сітуацыю, у якой апынулася наша мова, і не выносіць на ўсеагульнае абмеркаванне пытанне пра двухмоўе, а замацаваць у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь статус адзінай дзяржаўнай беларускай мовы.

*(Аксёнчык Ніна Канстанцінаўна, выкладчык, Купрэенка Васіль Аляксандравіч, дацэнт, Кулак Уладзімір Мартынавіч, дацэнт, Гусак Надзея, студэнтка, і інш., усяго 693 подпісы).*

Народныя паны, таварышы, спадары дэпутаты!

Над будынкам, дзе вы ўтульна сядзіце, лунае бел-чырвона-белы сцяг. Наш нацыянальны! Калі сотні тысяч жыхароў забруджаных Чарнобылем раёнаў усё чакаюць ад вас літасці, калі мільёны людзей, абрабаваных з вашага дазволу ў апошнія два гады, маўчаць і чакаюць лепшай долі, не трэба яшчэ і зняважаць іх, таптаць самае святое, што яны маюць, -- Мову. Не адбірайце ў народа яго душу! Гэта не ўдалося зрабіць розным заваёўнікам нават за некалькі стагоддзяў. Не распальвайце нацыянальны экстрэмізм, бо парушацца мір і згода на нашай зямлі.

*(Настаўнікі Нясвіжскай СШ N 3 Ю.М. Бацян, А.Р. Язвінскі, Г.І. Казак і інш., усяго 10 чалавек, 12.05.93).*

Шаноўныя дэпутаты!

Вынесці на рэферэндум пытанне аб дзяржаўнасці дзвюх моў -- гэта значыць прадузята, мэтанакіравана, канчаткова знішчыць, загубіць беларускую мову на беларускай зямлі. Беларуская мова не вытрымае надалей такога канкурэнта, як руская мова, бо яна ўжо сёння апынулася ў загнаным, перадсмяротным становішчы.

Афіцыйнае панаванне ў нас рускай мовы на працягу доўгага часу (школы, ВНУ, дзяржаўныя і навуковыя ўстановы) выцiснула нашу родную мову спачатку з афіцыйнага ўжывання, а затым і са штодзённага, бытавога. Асабліва гэта адчуваецца ў гарадах. Пры дзяржаўным двухмоўі наступ на беларускую мову будзе прагрэсіраваць, у выніку чаго знікне мова, знікне нацыя. Дзве гадзіны беларускай мовы ў школе і "Калыханка" ў эфіры не навучаць нашых дзяцей гаварыць па-беларуску і захоўваць мову для будучых пакаленняў.

Каб выжыць беларусам як нацыі -- выхад адзін: на Беларусі павінна быць дзяржаўная мова адна -- беларуская.

*(М.Б. Чарняцова, г. Маладзечна, 11.05.93).*

Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь

З болем і трывогай назіраю, як у апошні час здзекуюцца з беларускай мовы ў нас на Беларусі. Варожыя сілы спрабуюць увесці другую дзяржаўную мову -- рускую. Я катэгарычна пратэстую супраць гэтага. Адзінай дзяржаўнай мовай на Беларусі, маёй Радзіме, павінна быць толькі беларуская мова!

Я заклікаю ўсіх дэпутатаў не здрадзіць сваёй Бацькаўшчыне хаця б у гэтым пытанні.

*(Н.А. Салаўёў, наладчык абсталявання, г. Віцебск, 18.05.93).*

Паважаныя дэпутаты!

Звяртаюцца да вас настаўнікі Латвянскай сярэдняй школы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. За гэтае пісьмо ўзяліся мы таму, што нас хвалююць тыя праблемы, якія ўзнікаюць вакол нашай роднай беларускай мовы. На працягу многіх пакаленняў беларуская мова прыніжэннямі і рознымі прамымі ці ўскоснымі знявагамі даволі паспяхова выбівалася вярхоўнымі ўладамі з памяці беларусаў.

Мы настойліва патрабуем не выносіць на разгляд сесіі пытанне аб двухмоўі. У беларусаў была, ёсць і будзе толькі адна родная мова -- беларуская, якая з малаком маці прыйшла да нас. Хочам прывесці ўрывак з верша В. Віткі. На нашу думку, гэта вельмі ўдалае, трапнае выказванне:

**Даўно сам народ без прынук**
**Уцяміў, намер ваш які:**
**Ні ў кога жывога, толькі ў гадзюк,**
**Дапраўды, па два языкі.**

Шчыры, сумленны, працавіты беларускі народ ніколі не павінен зраўняцца з гадзюкай. Сорамна нават гаварыць, што беларусы могуць мець дзяржаўнай мову рускую. З гэтага нават куры могуць пасмяяцца. Гляньце вакол сябе: англічане гавораць на англійскай мове, немцы -- на нямецкай, французы -- на французскай, і беларусы павінны гаварыць на сваёй роднай беларускай. Смешна выносіць гэтае пытанне на рэферэндум. Ці ж мы такія багатыя, каб траціць грошы на тое, што не патрабуе вырашэння.

Паважаныя дэпутаты! Мы спадзяемся на ваш розум, на вашу адданасць свайму народу. Мы вас выбіралі, мы, беларусы, і мы патрабуем выканаць наш наказ: захаваць нашу мову, адрадзіць яе, зберагчы і развіць лепшае з культуры нашай, адчуць годнасць і здольнасць не толькі палепшыць сваё жыццё, але і ўнесці важкі ўклад у развіццё агульнай цывілізацыі чалавецтва. Адначасова -- перадаць усё гэта, як самую вялікую каштоўнасць, нашым нашчадкам.

*(В.С. Юрэвіч, Л.А. Сіўчык, Д.В. Роўда і інш., усяго 11 подпісаў. 18.05.93).*

Старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н.С. Гілевічу

Чаму не выконваецца Закон аб мовах? З гісторыі вядома, што гублялі ўласную свабоду і незалежнасць не толькі народы, слабыя фізічна, але і тыя, хто праяўляў залішнюю добразычлівасць да суседзяў. Вось як мы, беларусы.

Калі і на якіх сесіях Вярхоўнага Савета, на якіх з'ездах абмяркоўвалася пытанне аб закрыцці беларускіх школ? А нідзе гэтага не было! Закрылі -- і вінаватых няма! На працягу доўгага часу беларуская мова і культура знаходзіліся ў неспрыяльных умовах, а пачэснае месца адводзілася рускай мове.

Зусім незразумела, чаму праціўнікі беларускай мовы ў парламенце намагаюцца, як толькі могуць, спыніць працэс нацыянальна-культурнага адраджэння, выкарыстоўваючы сродкі масавай інфармацыі, дамагаюцца ўвядзення двухмоўя. Гэтым яны замаруджваюць выкананне Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

*(Сябры Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Мядзельскай СШ N 3: І.М. Міклушова, У.С. Серадзінскі, В.І. Місуна, А.У. Сіскевіч, Мядзведзева, Т.Р. Мацкевіч, Г.І. Звяруга і інш., усяго 17 подпісаў. 18.09.93).*

Паважаныя дэпутаты!

Вырашыла напісаць да вас па так званым пытанні аб двухмоўі. Я лічу, што такія рэчы рабіць ніяк немагчыма, проста абсурдна. Гэты крок адкіне наша грамадства на стагоддзі назад, а можа, нават на гэты раз і знішчыць нас як народ назаўжды, бо такі народ, які карыстаецца добраахвотна чужой мовай, а сваю лічыць недасканалай, не можа існаваць, ён павінен загінуць. Час не пашкадуе нікога з тых, хто адмовіўся ад сваіх каранёў, бо гэта фактычна тая ж здрада. І шляхі ў кожнага да такой здрады свае, але ў большасці яны агульныя -- гэта духоўная лянота, нежаданне рабіць сабе дадатковыя клопаты і так званая бесперспектыўнасць. Шкада, што ілюзію такой бесперспектыўнасці стварае сама наша ўлада і нават Вярхоўны Савет. А трэба, каб людзі бачылі, што дзяржава падтрымлівае беларусаў і робіць на іх свядомасць стаўку. Людзям трэба ствараць умовы для таго, каб узнікала жаданне вярнуцца да сваёй беларускасці, адчуць сябе беларусамі і з гонарам паведаміць аб гэтым усім на свеце! А зараз у нас беларуская мова -- мова ў становішчы падчаркі, а роднай дачкой дзяржавы зараз з'яўляецца расійская. Калі дзяржаўнай мовай будзе і расійская мова, то яна ніколі не пасунецца на троне, на якім зараз сядзіць, і надалей не толькі не дасць ніякай магчымасці сесці беларускай мове побач, а нават наблізіцца да трона.

А калі будзе ставіцца пытанне аб тым, каб вынесці пытанне аб двухмоўі на рэферэндум, то гэта, наогул, нешта страшнае! Аб якой самастойнасці дзяржавы ў такім разе можа ісці гаворка?! Гэтым крокам мы зняважым сябе як народ, расчаруем увесь свет, пакажам усім тым, хто намі зацікавіўся як добрым і сціплым народам, што мы ні на што не здольныя, бо не можам нават абараніць сваю мову, а мова -- гэта душа, а значыць, і іншыя могуць з нас здзекавацца і пагарджаць намі.

*(А.М.Галуза, эканаміст, 29 гадоў, г.Ліда. 10.05.93).*

Паважаныя дэпутаты!

Пішуць вам вучні Вузлянскай НСШ. Наша школа размешчана ў адным з найпрыгажэйшых і маляўнічых куточкаў Беларусі. У нашай вёсцы жывуць цудоўныя людзі, якія ўсё сваё жыццё размаўляюць толькі на беларускай мове. У нашай школе гадамі ўсе прадметы выкладаюцца толькі на беларускай мове, усе мерапрыемствы праводзяцца таксама на беларускай мове, мове, якую нам завяшчалі яшчэ Ф.Скарына, М.Багдановіч, Я.Колас.

Сапраўдны беларус ніколі не цураецца сваёй мовы, такой мілагучнай, зразумелай, блізкай. Пры нашай школе існуе ўжо 20 гадоў фальклорна-этнаграфічны калектыў "Вузлянка", якому прысвоена званне народнага. Гэты калектыў вельмі шмат зрабіў для адраджэння беларускай мовы. Разам з настаўнікамі выступаем і мы.

Паважаныя дэпутаты, пераканаўча заклікаем лічыць дзяржаўнай мовай толькі родную беларускую мову.

*(Оля Русак, Наташа Уліцкая, Таня Рудзік, Таня Купрэвіч, Каця Тачыцкая і інш., усяго 35 подпісаў. 17.05.93).*

Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь

Мы, здаецца, жывём у суверэннай дзяржаве, але калі сочыш за працай нашага парламента, то робіцца сорамна за многіх дэпутатаў.

Як можна жыць і працаваць на зямлі і з такой пагардай адносіцца да нашай гісторыі, мовы, культуры? Хто дае права дэпутатам ад ветэранскай арганізацыі выступаць ад імя ўсіх ветэранаў вайны і працы?

Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь павінна быць толькі беларуская. Ніякага рэферэндуму па гэтым пытанні быць не можа! Рэферэндум павінен быць толькі аб недаверы Вярхоўнаму Савету.

*(І.Ніжанкоўская, г.Мінск, 31.05.93).*

Шаноўныя дэпутаты!

Лёс нашага народа залежыць не толькі ад правільна прынятых палітычных пытанняў, але і ад здаровага развіцця культуры, праўдзівай гістарычнай спадчыны, духоўнасці. Падмуркам гэтых паняццяў з'яўляецца нацыянальная мова. На Беларусі дзяржаўнай мовай павінна быць толькі адна -- беларуская. Толькі такое прынцыповае і бясспрэчна слушнае рашэнне можа выратаваць нас ад безабліччасці ды бездухоўнасці. Выносіць на рэферэндум пытанне аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай -- гэта ганьба для беларусаў. Дзве дзяржаўныя мовы для нас, беларусаў, -- духоўная смерць.

*(Сяргей Цімохаў, г. Полацк, 16.05.93).*

Сакратарыяту сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Апошні час гучаць патрабаванні, каб статус дзяржаўнай мовы быў нададзены і рускай мове. Зараз наша родная беларуская мова знаходзіцца ў загоне, і выратаваць яе магчыма, надаўшы статус дзяржаўнай мовы толькі ёй -- беларускай мове. Тады ўсе людзі, якія недастаткова ведаюць беларускую мову, возьмуцца за яе вывучэнне, і пачнецца паступовае адраджэнне нашай роднай беларускай мовы. Гэта адзінае, што выратуе беларускую мову і беларускую нацыю. Гэта цяжкая і марудная праца, але другога выйсця няма.

Мы -- людзі пенсійнага ўзросту і добра памятаем, як у школе ўсё выкладалася на беларускай мове (гэта былі 20-я, а таксама 30-я гады). Мы добра памятаем, як натуральна гучала беларускае слова з вуснаў нашых настаўнікаў, на вуліцах, па радыё. Гэта прыгожа, добра і натуральна. Вядома, зараз ёсць людзі, якім давядзецца з вялікімі цяжкасцямі ўзяцца за вывучэнне беларускай мовы, але яны павінны ведаць, што гэта вялікая і вельмі патрэбная справа.

Ніхто не забараняе іншыя мовы, але, паўтараем, трэба ратаваць, пакуль яна не загінула зусім, нашу родную беларускую мову. Трэба адрадзіць беларускую мову і нацыянальную свядомасць. У Беларусі дзяржаўнай мовай павінна быць адна мова -- беларуская.

*(Генадзь Фёдаравіч Сакалоў, 1912 г., Аляксандра Аляксееўна Сакалова, 1907 г., г.Мінск, 18.05.93).*

Паважаныя дэпутаты!

Да вас звяртаюцца супрацоўнікі дзіцячага сада N 31 г.Ліды. Наш сад беларускамоўны. Мы любім беларускую мову, дзеці з ахвотай слухаюць беларускія народныя казкі, удзельнічаюць у фальклорных святах, спяваюць беларускія народныя песні. І нам вельмі балюча чуць, як вы выступаеце за дзве дзяржаўныя мовы: беларускую і рускую. Мы нічога не маем супраць рускай мовы, рускіх людзей, якія жывуць на тэрыторыі нашай рэспублікі. Але ж мы лічым, што дзяржаўнай мовай павінна быць толькі адна мова -- беларуская. Наша мова толькі пачала адраджацца, а вы зноў хочаце затаптаць яе ў гразь. Хто даў вам такое права?

Адумайцеся, народныя выбраннікі! Прыслухайцеся да голасу народа Беларусі!

*(М.А.Шафранская, Т.С.Каласоўская, Н.К.Конан, Т.А.Басюк і інш., усяго 40 подпісаў, г.Ліда, 26.05.93).*

Паважаныя дэпутаты!

Сорам слухаць многіх вашых прадстаўнікоў, якія пераглядаюць ужо прынятыя рашэнні на папярэдніх сесіях. Я маю на ўвазе Закон аб дзяржаўнай мове.

Дзяржаўнай мовай павінна быць толькі беларуская і ніякая іншая. Аргументаў прыводзілася ўжо вельмі шмат. Я прывяду толькі адзін. Я вучылася ў рускамоўных школах, працавала таксама ў рускамоўнай школе. Але калі патрэбна стала беларуская мова (а гэта вельмі правільна), я яе вывучыла і валодаю няд рэнна. Лічу ганьбай, што ў краіне, дзе жыве большасць беларусаў, трэба ўводзіць у ранг дзяржаўнай нейкую замежную, а менавіта рускую. А чаму не польскую, татарскую ці яшчэ якую-небудзь! Той, хто за ўвядзенне рускай мовы як дзяржаўнай на Беларусі, няхай падае ў адстаўку і складае з сябе паўнамоцтвы дэпутата: ён не сябра беларускаму народу, ён яму вораг, працаваць для беларускага народа ён не будзе.

Не лічыце народ дурнямі і быдлам. Ён ніколі не падтрымае тых дэпутатаў, якія навязваюць нам дзяржаўнай рускую мову, удзел у калектыўнай бяспецы, замену дзяржаўных сімвалаў і інш. Але народ сапраўдны, якому ўласціва чалавечая і нацыянальная годнасць, а не люмпен з "кілбаснай псіхалогіяй", якому ўсё роўна, хто будзе ім кіраваць, абы ў яго кішэні было на гарэлку і закуску.

Яшчэ хачу дадаць слова на карысць беларускай мовы. Моладзь пачала яе вывучаць. Вельмі сур'ёзна ставяцца ва ўсіх навучальных установах да адраджэння роднай мовы, асабліва ў школах, дашкольных дзіцячых установах. Праз год-два пачнецца масавае беларускамоўнае прадметнае выкладанне ў сярэднім звяне школы. Бацькі не супраць таго, каб дзеці навучаліся на роднай мове, дзецям таксама падабаецца. У многіх школах ужо адраджаецца сапраўдная нацыянальная школа. Сярод кіраўнікоў навучальных устаноў, іх супрацоўнікаў шмат людзей, якія жывуць ідэяй нацыянальнага адраджэння.

Дык не перашкаджайце беларусам адчуваць сябе людзьмі нароўні з усімі, не губіце роднае мовы, імкненняў многіх да ўзвышанага, дайце надзею людзям на тое, што мы таксама будзем нацыяй са сваёй мовай, гісторыяй, дайце людзям адчуванне гонару за сваю гісторыю, свае карані. Ад гэтага толькі лепш будзе ўсім: мы самі сябе будзем паважаць і іншых таксама.

*(А.К.Ерахавец, пас.Самахвалавічы Мінскага раёна. 28.05.93).*

ПРА ГЭТА НАЎРАД ЦІ ХТО ВЕДАЕ

# ВЯРТАННЕ УЛАДЗІМІРА ПІВАВАРАВА

ПРАЙШЛІ ГАДЫ... Жонка і дачка Уладзіміра Іванавіча перад вайной вымушаны былі паехаць з Беларусі на пастаяннае месца жыхарства ў горад Волжскі Валгаградскай вобласці. Неаднаразова Яўгенія Іванаўна пасылала пісьмы на імя Сталіна, Калініна, Берыя з просьбай паведаміць, дзе знаходзіцца яе муж. Неаднаразовыя звароты ў ГУЛАГ таксама ніякіх вынікаў не далі.

Затое пасля кожнага звароту яе выклікалі ў Міністэрства дзяржаўнай бяспекі і гаварылі: "Што вы хочаце, ваш жа муж --вораг народа" і прапаноўвалі аформіць развод.

У 1953 годзе адразу пасля смерці Сталіна зноў зварот у пракуратуру з просьбай аб рэабілітацыі У.Піваварава.

Пасля "перагляду" справы сям'я атрымала "пасведчанне" аб смерці, выдадзенае гарадскім аддзелам ЗАГС горада Волжскага, у якім было ўказана, што Піваварaў У.І. памёр 28 жніўня 1941 года ва ўзросце 37 гадоў. У графе прычына смерці -- памёр ад паралiча сэрца. Месца смерці -- невядома (зноў гнюсная мана. -- **І.К.**).

У дакуменце гэтым дзіўны не сам факт няпраўды -- да хлусні мы даўно прывыклі, -- а тое, што хлусня з такой падрабязнасцю распісвалася на дзяржаўным узроўні. Аб лёсах арыштаваных манілі заўсёды. Гэта ведае кожны, хто прайшоў чэргі да акенцаў даведак: пракурорскіх, міліцэйскіх, гулагаўскіх. Твой блізкі знаходзіўся ў адной турме, а табе называлі іншую, яго везлі на Усход, а гаварылі, што на Поўнач ці зусім адгаворваліся няведаннем ("звестак аб месцазнаходжанні не маем"), хлусілі аб прычынах арышту і асуджэння, хлусілі аб стане здароўя. І асобая хлусня -- аб прычынах смерці: "сардэчная недастатковасць", "параліч сэрца", "запаленне лёгкіх", але ніколі не расстрэл, не голад, не туберкулёз, не самагубства.

Праўда раскрывалася паступова, памалу, у асноўным, пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў. Аднак была катэгорыя ахвяр рэпрэсій (куды і трапіў У.Піваварaў), аб лёсе якіх працягвалі свядома хлусіць і ў час першай рэабілітацыі, і пры застоі, і ў разгар перабудовы. Пад забаронай ва ўсе эпохі заставалася праўда аб лёсах тых, хто быў расстраляны па прыгаворах несудовых органаў -- Асобай нарады, "троек", "двоек" -- Камісіі НКУС і Пракурора СССР і г.д.

У прыватнасці, на пасяджэнні Прэзідыума ЦК КПСС 18 жніўня 1955 года, дзе разбіралася гэтае пытанне, была вынесена пастанова, на падставе якой праз тыдзень тагачасны Старшыня КДБ СССР І.Сяроў выдаў разгорнутае Указанне. Загадвалася, як і раней, паведамляць адносна расстраляных, што яны былі прыгавораны да 10 гадоў ППЛ і памерлі ў час адбывання пакарання. Пры гэтым дата смерці вызначалася органамі КДБ адвольна ў межах 10 гадоў з дня арышту, выдуманай была і прычына смерці.

Аналагічная карціна назіралася і ў дзейнасці Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР. Па існуючаму ў тыя гады ў Ваеннай калегіі парадку, сваякам асуджаных да вышэйшай меры паведамлялася не аб расстрэле, а аб выдуманай даце і прычыне смерці іх родных і блізкіх.

Работнікі савецкіх і партыйных органаў, разбіраючы заявы сваякоў асуджаных да вышэйшай меры пакарання, паведамлялі ім аб расстрэле іх сваякоў. Ваенная калегія настойвала на тым, што асуджаныя памерлі ў месцах пазбаўлення волі.

Органы НКУС-МДБ-КДБ паведамлялі сваякам асуджаных да расстрэлу, што апошнія нібыта асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі ў аддаленых месцах Крайняй Поўначы без права перапіскі. Ваенная калегія на гэтай падставе давала выдуманую дату смерці. Між днём асуджэння і гэтай датай утвараўся разрыў у 5-6 гадоў.

Нягледзячы на тое, што ў Ваенную калегію ў перыяд 1953--1959 гадоў рэзка павялічылася колькасць зваротаў грамадскіх арганізацый, устаноў і прыватных асоб са спісамі грамадзян, якія мелі ў мінулым вялікія заслугі перад народам, з просьбай паведаміць, ці рэабілітаваны яны і які іх лёс, Ваенная калегія працягвала паведамляць выдуманыя даты смерці. У выніку гэтыя скажоныя даты сталі з'яўляцца ў афіцыйных дакументах і пасведчаннях аб смерці, якія, у прыватнасці, органы ЗАГС па ўказанню КДБ працягвалі выдаваць сваякам асуджаных да расстрэлу. Такое ж "пасведчанне" атрымала не толькі Яўгенія Іванаўна, але і дзесяткі тысяч нашых суграмадзян.

Хлусня ўзору 1955--1959 гадоў праіснавала да 1962 года. І часткова была адменена толькі пасля звароту старшыні КДБ СССР В.Семічаснага ў ЦК КПСС 26 снежня 1962 года. Поўнасцю яна была адменена (зноў-такі па ўзгадненню з "інстанцыяй") загадам па КДБ СССР ад 30 верасня 1989 года.

Такім чынам, людзі, якія атрымалі адказ паміж 1955 і 1963 гадамі і не звярталіся з новымі запытамі пасля сакавіка 1989 года, так і не ведаюць сапраўдных прычын і дат гібелі сваіх блізкіх (па іроніі лёсу Яўгенія Іванаўна 2 сакавіка 1989 года на сваё пісьмо атрымала адказ з МУС Комі АССР, што яе муж памёр ад паралiча сэрца 28 жніўня 1941 года. -- **І.К.**).

Цяжка сказаць, навошта трэба было гэта шматгадовае нагрувашчванне хлусні. А чаму столькі гадоў утойвалі праўду аб Катыні? Чаму адмаўлялі сапраўднасць дадатковых пагадненняў да савецка-германскага пакта 1939 года? Чаму не раскрывалі склад "троек"? Чаму не апублікавалі тэлеграму 1939 года аб катаваннях, аб якой сказаў публічна яшчэ Хрушчоў? Сістэма ахоўвала сябе, утойваючы ад народа праўду.

А можна і абагуліць.

А ці не дзіўна гэта: тэрмін даўнасці на злачынствы існуе, а на архівы НКУС-МДБ-КДБ няма? Ці будуць адкрыты справы супраць старых супрацоўнікаў НКУС, дзе тэхналогія рэпрэсій дакументальна прадстаўлена ў выглядзе генацыдных разнарадак? Чаму ў расстрэльных справах НКУС, як правіла, адсутнічаюць фатаграфіі? Якога роду архіўныя матэрыялы ўжо знішчаны? Па загаду каго? Дзе акты аб спісанні? Калі ж нарэшце мы даведаемся пра трагічныя лёсы нашых землякоў, якія палеглі касцьмі на Поўначы, Урале, Сібіры і ў іншых рэгіёнах?

Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні дазволіў бы больш адкрыты доступ даследчыкаў-прафесіяналаў у ведамасныя архівы і перш за ўсё КДБ.

Што ж адбываецца на самай справе? Нельга аспрэчваць той факт, што ў дзейнасці кампетэнтных органаў адбыліся пэўныя пазітыўныя змены, дзякуючы якім наша грамадства нарэшце атрымала магчымасць хоць часткова даведацца пра факты, даты, імёны, схаваныя раней у ведамасных архівах.

Вялікая колькасць дакументальных матэрыялаў, што з'явіліся на старонках перыядычнага друку, стварыла бачнасць, што цяпер мы ўжо ведаем усё пра сумны перыяд 30--40-х гадоў.

Гісторыкі, якія спрабуюць пранікнуць у тайну тых сумных падзей, натыкаюцца, як правіла, на непераадольную сцяну ведамасных забарон. Здавалася б, што пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Беларусі шэрагу заканадаўчых актаў праблемы доступу, перш за ўсё да архіваў КДБ, павінны быць знятымі. Нібыта так і адбылося, калі верыць паведамленням друку. Але дзе там! Органы КДБ вырашылі працягваць традыцыі сваіх папярэднікаў 30-х гадоў і ў што б там ні было захаваць грыф "сакрэтна".

Даўно ўжо паўстала заканамернае пытанне: якія тыпы дакументаў павінны быць перададзены на дзяржаўнае захоўванне, гэта значыць зняты з архіваў КДБ, і па які год, а якія неабходна пакінуць у падраздзяленнях КДБ для працягу яго дзейнасці.

Што ўяўляюць сабой архівы КДБ? (Размова пойдзе аб структуры архіваў на момант распаду СССР. Пазней адбыліся пэўныя нязначныя структурныя змяненні. -- **І.К.**).

Існуюць два ўзроўні: цэнтральны архіў і архівы абласных упраўленняў. (Усе гарадскія і раённыя аддзелы КДБ здаюць свае матэрыялы ў адпаведнае абласное ўпраўленне).

Разгледзім, якія асноўныя тыпы дакументаў, што тычацца непасрэдна праблем рэпрэсій і рэабілітацыі, сканцэнтраваны ў архівах КДБ і якія неабходна адкрыць для ўзнаўлення сапраўднай гістарычнай праўды.

1) Матэрыялы сакрэтнага справаводства. Гэта інфармацыйныя і дакладныя запіскі ў органы ўлады і ўпраўлення СССР і БССР, справаздачы і іншыя абагульняючыя і дырэктыўныя дакументы аб правядзенні рэпрэсіўнай дзейнасці і разведвальнай работы. Некаторыя з іх маюць пастаянны, а некаторыя -- часовы статус захоўвання.

2) Архіўна-следчыя справы за перыяд з 1918 па 1991 год на грамадзян, якія падвергліся рэпрэсіям, а таксама на так званых "памагатых" часоў Вялікай Айчыннай вайны, шпіёнаў, супрацоўнікаў НКУС-КДБ, асуджаных за фальсіфікацыю следчых спраў, карнікаў часоў вайны, г.зн. увесь комплекс следчых спраў, якія былі падведамасныя КДБ.

3) Фільтрацыйныя і трафейныя матэрыялы. Усе савецкія грамадзяне, якія былі на акупіраванай тэрыторыі, у лагерах для ваеннапалонных ці вывозіліся, ці ехалі добраахвотна на работу ў Германію, пры вяртанні ў СССР праходзілі праверку ў праверачна-фільтрацыйных лагерах. На іх заводзіліся анкеты, да гэтых анкет дадаваліся нейкія матэрыялы, і так утваралася, уласна, праверачна-фільтрацыйная справа.

4) Копіі пратаколаў пасяджэнняў несудовых органаў ВЧК-АДПУ-НКУС-МДБ (Асобая нарада пры НКУС-МДБ СССР, Камісія НКУС і Пракурора СССР ("двойка"), "тройкі" пры УНКУС рэспублік і абласцей).

5) Асабістыя справы былых супрацоўнікаў дзяржбяспекі.

6) Асабістыя справы агентаў (штатных і няштатных) і аператыўныя справы. Тут усе віды спраў аператыўнага ўліку, кантролю, праверкі, назірання, аператыўнай распрацоўкі, аб'ектавай распрацоўкі.

З аналізу асноўных відаў дакументаў вынікае, што без іх дэталёвага вывучэння немагчыма атрымаць сапраўдную карціну рэпрэсій перыяду 30--40-х гадоў.

У сувязі з тым, што многія да гэтага часу не ведаюць пра лёс сваіх родных, рэпрэсаваных у перыяд 30--40-х гадоў, для аднаўлення пошукаў неабходна мець уяўленне аб захоўванні ў архівах дзяржбяспекі архіўна-следчых спраў.

Гэты парадак быў зацверджаны яшчэ загадам Старшыні КДБ СССР ад 18 лістапада 1961 года. Згодна з ім у архівах КДБ захоўваюцца ўсе справы на асуджаных па палітычных матывах. У тэрытарыяльных органах дзяржбяспекі захоўваюцца архіўна-следчыя справы, па якіх гэтымі органамі вялося папярэдняе следства, а таксама тыя крымінальныя і грамадзянскія справы, што змяшчаюць сакрэтныя звесткі. Акрамя таго, захоўваюцца адкладзеныя ў працэсе мінулай дзейнасці пратаколы пасяджэнняў камісіі НКУС і Пракурора СССР, Асобай нарады пры АДПУ-НКУС-МДБ-МУС і "троек" НКУС-УНКУС па разгляду крымінальных спраў.

Асобыя аддзелы КДБ і аператыўныя апараты пагранвойск скончаныя справаводствам і спыненыя крымінальныя справы здавалі на захоўванне ў КДБ-УКДБ-АКДБ па месцах жыхарства асобаў, якія прыцягваліся да адказнасці, а ў адносінах ваеннаслужачых -- па месцы іх нараджэння.

У сувязі з тым, што раней архіўна-следчыя справы на ваеннаслужачых і работнікаў транспарту здаваліся на захоўванне ў тэрытарыяльныя органы КДБ па месцах дыслакацыі штабоў ваенных акруг і ўпраўленняў чыгунак, то цяпер яны знаходзяцца на захоўванні ў органах дзяржбяспекі па месцах нараджэння ваеннаслужачых, а ў адносінах грамадзянскіх асоб, што прыцягваліся да адказнасці, па месцу жыхарства. Групавыя справы захоўваюцца ў тэрытарыяльных органах дзяржбяспекі па месцу жыхарства /на ваеннаслужачых па месцу нараджэння/ аднаго з асноўных удзельнікаў групы.

Архівы толькі загаварылі. Пра тысячы людзей, як, напрыклад, У.Піваварaў, што сталі ахвярамі таталітарызму, паўстагоддзя не ўпаміналася ні слова, хаця яны маглі б стаць у свой час і героямі нарысаў аб перадавіках, і ганаровымі гасцямі піянерскіх ранішнікаў. Нарэшце, ад ідэйна-запаленчага агавору на канвееры, ад зайздрасці-подласці-нянавісці мы, на жаль, не застрахаваны і па сёння.

Урокі гісторыі такія, што сёння па шляху праўды мы павінны прайсці да канца. Паўмерамі і агаворкамі цяпер нічога не даб'ешся, таму што толькі поўная, нават горкая праўда з'яўляецца перш за ўсё гарантыяй ад рэстаўрацыі крывавага таталітарнага рэжыму.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# СУСТРЭЧА З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

Бадай, няма на Беларусі чалавека, які не ведаў бы, хто такі Васіль Быкаў. Аўтарытэт яго, як літаратурнага і грамадскага дзеяча, не выклікае сумненняў ні сярод шматмільённых сяброў, ні сярод непрыяцеляў. Яго талент, працавітасць, сумленнасць і рашучасць могуць быць прыкладам для кожнага з нас. І не дзіва, што віленчукі нецярпліва чакалі гэтай сустрэчы з пісьменнікам.

Васіль Быкаў пастараўся паспець на адкрыццё памятнай дошкі вялікаму палітыку-філолагу Браніславу Тарашкевічу. Быкава сустрэлі кветкамі і абдымкамі. Твары згуртаванага натоўпу свяціліся радасцю і любоўю. Амаль усе знаді, які цяжкі шлях прайшоў пісьменнік за свае 70 гадоў. Яго горача віталі, віншавалі з прыездам і юбілеем.

Прысутныя -- пасол Беларусі Яўген Вайтовіч і старшыня "Бацькаўшчыны" Ганна Сурмач у прывітальных словах падкрэслілі вялікі ўклад Быкава ў адраджэнне нашага народа, а таксама ў арганізацыю і дзейнасць згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", прэзідэнтам якой напачатку быў Васіль Быкаў. А праз гадзіну пасля адкрыцця дошкі чакала пісьменніка сустрэча ў Таварыстве беларускай культуры.

-- Я заўсёды любіў Вільню -- калыску беларускай культуры і патрыятызму. Гэты горад заўсёды будзе блізкім і родным разам з яго "тутэйшым" насельніцтвам, яго традыцыйнай талерантнасцю і гасціннасцю, -- сказаў Васіль Быкаў.

Згодна з прапановай госця далейшая гутарка складалася з пытанняў і адказаў. Людзі цікавіліся пазіцыяй і дзейнасцю першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, яе эканомікай, паводзінамі міністра абароны (які адмовіўся насіць беларускія рэгаліі), нашэсцем польскіх і расійскіх агітатараў, якія вядуць падрыўную работу, выкіданнем народных грошай на помнікі для ўдзельнікаў чужой нам "бруднай" вайны ў Афганістане і г.д...

-- Я не палітык, -- сказаў Васіль Быкаў. -- Мой візіт мае прыватны характар.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

241

У адказ каталіцкі клір адкрыў у чэрвені 1918 года ў Мінску рымска-каталіцкую кафедру на чале з епіскапам Лазінскім, і барацьба каталіцкай царквы з беларускім рухам пасунулася на ўсход. Актыўны прыхільнік беларускага адраджэння ксёндз Гадлеўскі быў пераведзены Лазінскім з Мінска ў Нясвіж. А рэктар Дамініканскага касцёла ксёндз Браніслаў Усас выступаў з амбона аб штучнасці беларускага руху і яго шкодзе для каталіцызму. Ён сцвярджаў таксама, што беларускай мовы ўвогуле не існуе.

**АДУКАЦЫЯ.** БНР не шкадавала часу і сродкаў на развіццё беларускага школьніцтва. Сетка навучальных устаноў пашыралася на тэрыторыю новай акупацыі. Прафесар Я. Карскі апякаў сярэднія школы, доктар Вацлаў Іваноўскі -- прафесійныя школы, а кандыдат філасофіі Пецярбургскага універсітэта Браніслаў Тарашкевіч -- народныя пачатковыя школы. Пры Народным Сакратарыяце працавалі бюро распрацоўкі школьных падручнікаў і таварыства "Прасвета", што займалася іх выданнем. 1 красавіка былі арганізаваны курсы беларусазнаўства, на якіх лекцыі чыталі Аркадзь Смоліч (геаграфія), Язэп Варонка (гісторыя), Тамаш Грыб (літаратура), прафесар Масаніюс і Язэп Лёсік (мова). З 1 верасня працавалі настаўніцкія курсы, а праз месяц быў закладзены "Беларускі вучыцельскі саюз" пад кіраўніцтвам Сымона Рак-Міхайлоўскага.

Урад БНР арганізаваў збор ахвяраванняў на развіццё асветы. Яны паступалі ад земстваў, ксяндзоў, княгіні Магдалены Радзівіл. У Мінску

242

адкрыўся Беларускі педагагічны інстытут. Яго рэктарам стаў В.Іваноўскі, а выкладчыкамі -- Я.Карскі, Б.Тарашкевіч, У.Ігнатоўскі. Стараннямі прафесара Жураўлёва была створана першая Беларуская ўрадавая кансерваторыя. Спецыяльная камісія на чале з прафесарам М.Доўнар-Запольскім рыхтавала адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Мелася мажлівасць сабраць амаль поўнасцю прафесарскі склад з беларусаў. У Слуцку і Браславе адкрыліся дзве гімназіі, а ў Свіслачы -- настаўніцкая семінарыя.

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ.** У 1918 годзе ў БНР на беларускай мове выходзіла 6 газет і 3 часопісы, працавала 11 выдавецтваў, якія выпусцілі 35 беларускіх кніг. Актывізавалася і культурнае жыццё. Цэнтрам яго ў Мінску стаў Беларускі народны дом імя М.Багдановіча, адкрыты 19 мая. У той жа дзень на базе Таварыства драмы і камедыі адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр БНР. Старшыня Народнага Сакратарыята Язэп Варонка заказаў мастаку С.Валянсевічу стварыць галерэю партрэтаў выдатных беларускіх пісьменнікаў і вучоных, а сам рыхтаваў да друку "Белую кнігу Беларусі" з асноўнымі момантамі гісторыі беларускага руху 1917--1918 гадоў. Са жніўня культурна-асветнай дзейнасцю займаліся такія гурты, як "Бацькаўшчына", "Мінскае таварыства навукі, літаратуры і мастацтва". У маі-чэрвені 1918 года ў Вільні прайшла выстаўка беларускай культуры. Яе ініцыятарамі выступілі германскія беларусазнаўцы доктар Энке, публіцыст Брамэр і беларускі вучоны Іван Луцкевіч. На гэтую

243

выстаўку цікавую калекцыю па гісторыі і этнаграфіі прывёз з Мінска Рамуальд Зямкевіч. На жаль, у снежні 1918 года яна была амаль цалкам знішчана бальшавікамі, што ўварваліся ў Вільню. Рыхтавалася выстаўка памяці Ф.Скарыны.

**ЗБЕРАЖЭННЕ ЗДАБЫТКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ.** Урад БНР знаходзіў час і для таго, каб займацца аховай і вяртаннем на Беларусь нацыянальнай культурнай спадчыны. У 1915 годзе адступаючая расійская армія вывозіла з сабой не толькі прадпрыемствы, але і маёмасць амаль усіх дзяржаўных, культурных і навучальных устаноў, а гэта значыць -- бібліятэкі, архівы і музеі. Там усё гэта валялася па складах, раскрадалася, а калі і захоўвалася, то толькі дзякуючы старанням свядомых беларусаў-бежанцаў. Восенню бальшавіцкі ўрад даў згоду на вяртанне з Пецярбурга мастацкіх каштоўнасцяў -- дык бібліятэка Апалінара Храптовіча-Буцянёва і калекцыі Віленскага універсітэта апынуліся на Украіне, а шмат якіх беларускіх культурных скарбаў паплыло праз Стакгольм у Польшчу. Спроба ж Вялікай Беларускай Рады вярнуць у лістападзе 1917 года маёмасць Віленскага універсітэта і ўзнавіць яго дзейнасць у Полацку не ўдалася.

Тыя ж культурныя багацці Беларусі, што заставаліся на месцы, стараліся вывезці польскія культуртрэгеры і калекцыянеры. Так, з дазволу немцаў палякі абабралі бібліятэку мінскай мужчынскай гімназіі. Было вывезена 1 300 кніг, у тым ліку і старадрукі XYI-XYII стагоддзяў. Народны Сакратарыят патрабаваў ад Савецкай

244

Расіі і Нямеччыны захавання і вяртання культурнай спадчыны беларускага народа. Удалося вярнуць на радзіму Мінскі педінстытут і мужчынскую гімназію. Аховай гістарычных і культурных помнікаў на Беларусі з верасня 1918 года пачало займацца "Беларускае згуртаванне прыхільнікаў літаратуры і гісторыі".

## 25.4. Няспраўджаныя надзеі

**У ВАЕННЫМ ЗАЛОГУ АД ЧУЖЫНЦАЎ.** Пад наглядам немцаў беларусы займаліся дзяржаўнай дзейнасцю ва ўсіх яе галінах, акрамя ваеннай. Беларускаму ўраду не дазвалялася мець сваё войска ды міліцыю. А таму акупанты не дапусцілі прыбыцця на Беларусь і 100-тысячнага беларускага войска з Румынскага фронту. Але як гэта ні парадаксальна, толькі пад аховай 10-й акупацыйнай арміі немцаў беларусы змаглі даказаць сваю здольнасць да дзяржаўнага будаўніцтва. Інакш, без нямецкіх гарантый, зрабіць гэта наўрад ці дазволілі б нам бліжэйшыя суседзі.

**ЗАПОЗНЕНЫ ПЕРАГЛЯД АКУПАЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫКІ.** Паспяховая дзейнасць БНР змяніла да сябе адносіны германскага ўрада. Калі спачатку немцы цярпелі БНР пераважна дзеля папярэджвання супраціўлення акупацыйнаму рэжыму, то ўжо праз некалькі месяцаў пачалі разглядаць яе як паўнацэнную фігуру ў сваёй дыпламатычнай гульні. Прызнанне беларускай дзяржавы давала мажлівасць кайзераўскай Ня-

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

245

меччыне ліквідаваць небяспечны расійскі клін, якім была Беларусь паводле Брэсцкага дагавора. Гэты клін убіваўся паміж новаўтворанымі дзяржавамі -- Украінай і Літвой. У Берліне добра разумелі і тую карысць, якую прыносіла існаванне ўкраінскай і беларускай дзяржаў для германскай палітыкі адносна Польшчы і Расіі. Нямецкія акупанты разглядалі ўрад БНР як рэзервны, якому пры станоўчым для Германіі выніку вайны можна будзе перадаць усю паўнату ўлады на Беларусі. Але пагаршэнне ваеннага становішча Нямеччыны не дазволіла ёй ажыццявіць свае планы. 27 жніўня 1918 года немцы пачалі датэрміновую эвакуацыю сваіх войскаў з беларускіх земляў паміж Дняпром і Бярэзінай.

**У ПОШУКАХ ВЫРАТАВАННЯ БНР.** Міжнароднае становішча БНР ускладнялася. Беларускі ўрад раздзіралі сваркі. У сувязі з адыходам немцаў ішоў пошук захавання на Беларусі нацыянальнай дзяржаўнасці. Адны арыентаваліся на Расію, другія -- на Польшчу, трэція -- на дзяржаўны саюз з Літвой ці з Украінай. Газеты "Беларускі шлях" і "Беларусь" абгрунтоўвалі думку аб заснаванні канфедэратыўнага саюза Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі і, магчыма, Украіны з мэтай супрацьдзеяння імперскім тэндэнцыям Расіі і Германіі. На поўную дзяржаўную самастойнасць разлічваць не прыходзілася. Незалежніцкія ідэалы не заўсёды падтрымлівалі зрусіфікаваныя народныя масы.

**РЭАРГАНІЗАЦЫЯ ЎРАДА БНР.** Каб падняць аўтарытэт беларускага ўрада, у кастрычніку

246

Народны Сакратарыят БНР перайменоўваецца ў Раду Народных Міністраў і на чале яе ставіцца наш слынны правадыр Антон Луцкевіч. Ён быў чацвёртым прэм'ерам БНР пасля Язэпа Варонкі, Рамана Скірмунта і Янкі Серады. У новы кабінет увайшлі эсэры і сацыял-дэмакраты (між іншым, і В. Іваноўскі). Сацыялістычны ўрад адразу ж пахіліўся да сацыялістычнай Расіі.

**ПЕРАМОВЫ З МАСКВОЙ.** Антон Луцкевіч робіць спробу дамовіцца з бальшавікамі аб захаванні беларускай дзяржавы ў складзе Савецкай Расіі. З гэтай мэтай ён едзе ў Кіеў і вядзе там перамовы з вядомым дзеячам бальшавіцкай партыі Хрысціянам Ракоўскім, а ў пачатку лістапада робіць візіт у Маскву, дзе, відаць, сутракаецца з Леніным. Антон Луцкевіч згаджаўся на федэратыўны саюз з бальшавіцкай Расіяй, згаджаўся і на ўвядзенне ў Беларусі савецкай канстытуцыі і толькі настойваў на прызнанні ленінскім урадам незалежнасці Беларускай рэспублікі. Але савецкі ўрад яшчэ не ўсведамляў у тыя дні неабходнасці для сябе надзяляць Беларусь дзяржаўнай самастойнасцю. Дамовіцца не ўдалося. Не далі вынікаў і перамовы з белай Расіяй (Дзянікіным), Польшчай. Украіна сама апынулася ў не менш цяжкім становішчы.

**НАДЗЕІ НА НЕЗАЛЕЖНУЮ ЛІТВУ.** Адзінай дзяржавай, якая згадзілася мець справу з кіраўніцтвам БНР, была Літва. Цікава, што ідэю дзяржаўнага саюза з Літвой спачатку падтрымалі і клерыкальна-памешчыцкія колы Міншчыны. У кіраўніцтве БНР іх прадстаўляў урад Рамана Скірмунта. З пачаткам германска-

247

га адступлення (кастрычнік 1918) яны абралі дэлегацыю на чале з Юрыем Чапскім і перадалі ад яе імя мемарандум шэфу штаба X арміі, дзе прасілі імператара Вільгельма стварыць пад апекай Германіі Вялікае Княства Літоўска-Беларускае.

У лістападзе 1918 года з літоўскім урадам пачала супрацоўнічаць Віленская Беларуская Рада, якая накіравала ў Тарыбу Літоўскай Рэспублікі 6 сваіх прадстаўнікоў (В. Ластоўскі, Д. Сямашка, К. Фалькевіч, У. Талочка, Я. Станкевіч і сам А. Луцкевіч). Беларускі генерал Кандратовіч стаў намеснікам міністра абароны Літвы. Былы першы прэм'ер БНР Язэп Варонка быў запрошаны ў склад літоўскага ўрада на пасаду міністра беларускіх спраў. Ён згаджаўся на нацыянальна-культурную аўтаномію ў рамках літоўскай дзяржавы, абы толькі не расійская залежнасць. Лідэр віленскіх беларусаў Антон Луцкевіч быў незадаволены памяркоўнасцю Варонкі. Але не толькі міністр спадзяваўся тады, што міністэрства беларускіх спраў стане асновай для далейшай дзяржаўнай федэралізацыі двух суседніх народаў. У пачатку студзеня 1919 года кіраўніцтва Літвы перабралася ў Коўна. Міністэрства беларускіх спраў спрабавала замацавацца ў Гродне, але неўзабаве вымушана было ехаць услед за літоўскімі апекунамі. 1--3 снежня 1918 года Беларускі нацыянальны кангрэс Гродзеншчыны вынес рэзалюцыю аб далучэнні гродзенскай часткі БНР да Літвы ў мэтах абароны ад Польшчы. Большасць беларускіх дзеячаў ішла на супрацоўніцтва з літоўцамі з надзеяй ажыццявіць даўнюю мару -- канфедэрацыю Беларусі і Літвы.

248

**ЗАХОП БНР РАСІЙСКІМІ БАЛЬШАВІКАМІ.** Яшчэ ў верасні-кастрычніку 1918 года немцы пакінулі Сенненскі, Лепельскі, Аршанскі і Магілёўскі паветы, якія падпалі пад уладу Савецкай Расіі. Рэвалюцыя ў Германіі і яе капітуляцыя на Заходнім фронце (11 лістапада 1918 года) паскорылі адступленне германскага войска. Адразу ж пасля таго, як у Германіі выбухнула рэвалюцыя, бальшавікі адракліся ад Брэсцкіх пагадненняў і 17 лістапада пачалі наступ на Беларусь. У лістападаўскую гразь утапталі яны і Устаўную Грамату БНР аб незалежнасці. Актывізавалася бальшавіцкае падполле. 10 снежня чырвонаармейцы захапілі Мінск, а 5 студзеня 1919 года – Вільню. З Палесся былі выціснуты пятлюраўцы. Створаны намаганнямі мясцовых левацэнтрысцкіх партый "Дэмакратычны краёвы цэнтр" спрабаваў супрацьстаяць бальшавіцкай агрэсіі, але безвынікова.

3 снежня 1918 года Рада і ўрад БНР перабраліся ў Вільню. Частка беларускіх дзеячаў БНР (у іх ліку Іваноўскі, Лёсік) засталіся ў Мінску з надзеяй паразумецца з беларускімі бальшавікамі і пад апекай Масквы стварыць кааліцыйны ўрад. Аднак марна. А Тарыба да гэтага часу ўжо ўстанавіла кантроль над беларускімі землямі Віленскай губерні, а таму знаходжанне ў Вільні беларускага ўрада было для яе непажаданым. 27 снежня кабінет Антона Луцкевіча пераязджае ў Гродна і знаходзіцца там, пакуль нямецкія войскі не пакідаюць горад у пачатку красавіка 1919 года. Як і ў свой час расійскія бальшавікі, нямецкія мілітарысты не далі магчымасці арганізавацца беларускай арміі, а самі кінулі Беларусь безабароннаю.

# "ЯК ПОЗНА-ПОЗНА І ЯК РАНА-РАНА..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ці трэба казаць, як хвалявалася я, чакаючы таго першага пісьма Міхася Лынькова. Чакала доўга. І вось -- нарэшце!

"Вы ўжо, відаць, усе "чаканкі паелі", спадзеючыся з дня на дзень атрымаць мой ліст. І, напэўна, " и руганием мя поругах" і ўсякім "злым речением мя поносях". Каюсь. Грэшны. Заслужыў. І Вам, як маладому аўтару, спачуваю. Некалі, груба кажучы, быў у Вашай шкуры... Аповесць прачытаў з задавальненнем. Зжыўся з некаторымі яе героямі, трымаю ў памяці паасобныя карціны, трапныя замалёўкі, трапныя параўнанні. Усё добрае, удачнае ў мастацтве заўсёды застаецца ў памяці".

Госпадзі, як было яго "поругах"!

У мяне перад вачыма, нібыта гэта адбылося толькі ўчора, адразу ж узнікла мая колішняя Урэцкая школа, узнікла першая ў жыцці сустрэча з "сапраўдным", "жывым" пісьменнікам -- з Міхасём Лыньковым. І вось што ўспомнілася мне тады. Ды і сёння помніцца!

* * *

Уся наша ўзорная Урэцкая школа, якая носіць імя вялікага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага, чакае ў госці самога Максіма Горкага. Чакае пакутліва і цярпліва. Калі ж ён, нарэшце, прыедзе? Ён жа сам абяцаў. І раптам -- нечаканасць. На агульнай школьнай лінейцы дырэктар школы паведамляе нам: Аляксей Максімавіч не прыедзе. Ён захварэў... Вось табе і чакалі, і рыхтаваліся. Не прыедзе!

Затое здараецца другі цуд.

Не запрошаны, не чаканы, неяк раз вясновым поўднем з'яўляецца да нас у школу Міхась Лынькоў... У школе, вядомая рэч, сярод старшых класаў Міхася Лынькова ведае кожны вучань. Гэта якраз той шчаслівы час і год, калі газета "Піянер Беларусі" з лынькоўскімі аповесцямі "Янка-парашутыст", "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў" шматуецца на кавалкі: "Я -- першы! Я -- за табою! Я -- трэці..."

Усе хочуць быць першымі, другімі, нават дзесятымі -- абы толькі хутчэй дачакацца чаргі! Хутчэй чытаць Міхася Лынькова!

І нядзіўна таму, што калі такога высокага госця, як Максім Горкі, школа чакае з трапятаннем у сэрцы і лёгкім халадком страху, то Міхася Лынькова страчае яна зусім як свайго!

Бо ён жа, Міхась Лынькоў, -- гэта ж перш-наперш самы чырвоны з усіх чырвоных Міколка-паравоз. Па-другое, гэта ж той самы сарві-галава Янка-парашутыст, у якога навучыліся круціць галовы на матчыных парасонах і спадніцах ледзь не ўсе хлапчукі нашае школы -- у з о р н а е, амаль самае лепшае ў раёне!..

Міхась Лынькоў -- гэта ж таксама не хто іншы, як славуты Андрэй Лятун (як зручна ляпнуць пры выпадку па плячуку сябра: "Эх, Андрэй, Андрэй, да чаго ты дажыў, да чаго ты дастукаўся!..").

"І плакала Рыва"... Нам, малым, праўда, гэтыя слёзы яшчэ не вельмі зразумелыя (хто чытаў, а хто і не чытаў апавядання Міхася Лынькова "Гой"...) Затое старэйшым -- асабліва дзяўчатам з дзевятага класа і з дзесятага. У гэтых у саміх -- то ў тае, то ў другое -- свае, уласныя слёзы ўжо не навіна...

І вось ён у школе -- Міхась Лынькоў.

Той самы, які, як пішуць школьныя хрэстаматыі, нарадзіўся 18 (па старому стылю) лістапада 1899 года на Віцебшчыне, у вёсцы Зазыбы (мусіць, пяску там было, пяску...) у малазямельнай сялянскай сям'і.

А далей, заплюшчыўшы вочы, каб нават сярод ночы разбудзіў, кожны школьнік прадоўжыць, што бацька будучага пісьменніка, каб пракарміць сям'ю, працаваў дарожным рабочым на чыгунцы, а сам будучы пісьменнік рос у гэтакіх самых выгодах, як раслі ўсе дзеці, у чыіх бацькоў не было маёнткаў. Маёнткаў не мелі таксама і бацькі вучняў нашае школы... Таму роднасць наша з Міхасём Лыньковым была -- з якога боку да яго ні падступіўся б.

І вось ён у школе. Не на здымку ў хрэстаматыі, а сапраўдны, жывы, у гэтакім жа, звычайным, як і ў нашых настаўнікаў, шэрым гарнітуры. Высокі, малады і, па ўсім відаць, жартаўнік.

Ён стаіць за настаўніцкім сталом, а мы, вучні, усе сядзім перад ім (як звычайна, старэйшыя за партамі, а малыя -- пяцікласнікі -- проста на падлозе) у самым вялікім дзесятым класе. Ён раз-пораз адкідвае з ілба непаслухмяную пасму валасоў.

-- Ну, дык што ж вам расказаць? -- звяртаецца Міхась Лынькоў да нас.

-- Раскажыце нам сваю біяграфію, -- адважваецца нехта смялейшы першым выказаць сваю просьбу.

-- Біяграфію расказаць? Дык вы ж яе, напэўна, ведаеце лепш за мяне самога, -- жартуе Міхась Лынькоў.

-- Ведаюць, Міхась Ціханавіч, -- задаволена ківае Антон Сцяпанавіч Некрашэвіч -- выкладчык беларускай мовы і літаратуры ў школе. Па звычцы ён запускае руку ў сваю ..учаравую чорную чупрыну -- і чупрына гэта ўмомант робіцца падобнай да гнязда грака... У Антона Сцяпанавіча нельга не ведаць. Літаратуру ён выкладае так, нібыта знаёміць нас, вучняў, са сваёй лепшай раднёй -- пісьменнікамі і іх творамі. Антон Сцяпанавіч ніколі не прытрымліваецца падручніка ("Падручнік чытайце самі, дома..."). Падручнік ляжыць у яго на стале толькі так, для прыліку. Уся родная літаратура -- з усімі яе пісьменнікамі і творамі -- надзейна селіцца ў яго граковым гняздзе-галаве... І заўсёды ў яго на ўжытку красамоўная прымаўка коласаўскага Хвядоса Хадыкі...

-- Вашу біяграфію, Міхась Ціханавіч, яны ўсе ведаюць! -- з гонарам за сваіх вучняў паўтарае Антон Сцяпанавіч. (У любым другім выпадку ён абавязкова дадаў бы яшчэ -- "Ядзяць іх мухі з камарамі". На гэты ж раз ён іх, гэтых "мух з камарамі", стрымлівае, не выпускае на волю -- жарт перш за ўсё павінен быць да месца).

-- Ну, тады пра што ж будзем весці гутарку? -- пытаецца Міхась Лынькоў.

-- Раскажыце, калі ласка, як вы зрабіліся пісьменнікам. Што падштурхнула вас напісаць першае апавяданне?

Гэта ўжо сур'ёзнае пытанне. Яго задае дзесяцікласніца Маня Жук. Яе вершы і апавяданні друкуюцца ў школьнай газеце-штодзёнцы "Наперад". Іх яна таксама чытае са сцэны на школьных вечарах.

**"Нам, чырвоным арлянятам, Будаваць наш новы свет!"**



С. АЛЕКСАНДРОВІЧ, М. ЛЫНЬКОЎ, М. ТАНК на Нарачы.

Фота У. КРУКА.

Маню Жук, хоць яна і не такая пісьменніца, як Міхась Лынькоў, ведае кожны малы ў школе.

-- Вось гэта ўжо канкрэтная размова, -- задаволена адкідвае з ілба светлую пасму Міхась Лынькоў і раптам з такім пытаннем звяртаецца да сваіх слухачоў:

-- А скажыце, сярод вас, хто тут сёння прысутнічае, ёсць паэты?.. Няма?! -- дзівіцца ён, не бачачы ўзнятых рук. -- Не можа быць! -- пераканана кажа Міхась Лынькоў. -- Без паэтаў нецікавае было б жыццё на свеце... І сярод людзей з такімі тварамі і вачыма, як у вас, не можа не быць паэтаў, -- жартуе ён і абяцае: -- І калі іх няма сёння -- яны народзяцца заўтра. Абавязкова!

У вачах яго слухачоў запальваецца гэтакае ж самае, як і ў яго самога, святло натхнення і надзеі: дык, можа, і мой паэт, гэта значыць -- паэт я сам, таксама народзіцца заўтра?!

-- А цяпер давайце пагаворым, як можна зрабіцца паэтам. Пісьменнікам наогул... Перш за ўсё хачу папярэдзіць вас. Хачу папярэдзіць таго, хто надумаецца пайсці ў пісьменнікі. Нялёгкі гэта хлеб, браткі мае! -- нечакана агаломшвае нас Міхась Лынькоў. -- Кавалю, скажам, калі ён ведае сваю кавальскую справу, нічога не значыць узяць і падкаваць каня... А вось паэту, каб напісаць верш... Каб напісаць апавяданне -- зусім недастаткова ведаць граматыку і ўмець пісаць без памылак... Пісьменніку яшчэ трэба адпакутаваць за свой твор. Трэба парадавацца і паплакаць удвух са сваім героем.

Міхась Лынькоў на нейкі час змаўкае. ("Значыць, ён таксама плакаў, калі плакала Рыва?..")

-- І яшчэ хачу вам сказаць: пісьменніку неабходна вельмі многа ведаць. Таму ён павінен вучыцца і вучыцца. Усё жыццё вучыцца, каб ведаць, як мага больш...

("Вось табе і маеш: мала таго, што ў школе толькі тое і рабі, што вучыся, дык яшчэ і пісьменнікам стаўшы, вучыся зноў...")

-- Неабходна быць назіральным і цікаўным да ўсяго, з кім і з чым бы ні сутыкнуліся вы ў жыцці: ці то будзе з'ява прыроды, ці чалавек, ці гераічная падзея...

-- А вы самі ваявалі разам з Міколкам-паравозам і яго дзедам? -- узнімаецца недзе з сярэдніх радоў рука.

-- Не, разам не ваяваў...

-- А Янку-парашутыста вы бачылі? Вы з ім сустракаліся?

-- Н-не... Не зусім каб страчаўся... — няпэўна адказвае і на другое пытанне Міхась Лынькоў.

-- А на Андрэевай Летуновай "кукушцы" ездзілі калі-небудзь? -- не пакідаюць дапытвацца самыя цікаўныя.

-- З Андрэем я ездзіў! -- неяк вельмі абрадавана ўсклікае Міхась Лынькоў. -- Праўда, ён толькі не Андрэем зваўся. У яго было іншае імя.

-- А хіба можна ў кніжках хлусіць? -- гэта ўзнімае руку наіўны разявака Кот Іван (паспрабуй пакладзі яму палец у рот).

-- Не рэкамендуецца, брат! -- неяк вельмі заклапочана трэ шчаку кулаком Міхась Лынькоў. -- Хлусіць не рэкамендуецца нідзе, ні ў школе, ні дома... У кніжках, бадай, таксама не рэкамендуецца... Але даводзіцца часам! -- як бы з адчаем нават разводзіць рукамі ён. І, нібы шукаючы ў нас, сваіх слухачоў, дапамогі, да нас жа і звяртаецца ён з надзеяй:

-- Даводзіцца ж часам, браткі, праўда?

-- Праўда! -- смехам і ажыўленым рухам адгукваецца пісьменніку ўзорная школа.

-- Даводзіцца... -- пазмоўніцку глядзіць Міхась Лынькоў на сваіх слухачоў і канчаткова забірае нас у палон. Усе мы, упершыню ў сваім жыцці стрэўшыся з сапраўдным жывым пісьменнікам, у захапленні ад яго!

Дык вось, аказваецца, якія яны, пісьменнікі. Ім таксама здараецца хлусіць.

Ура! Можна жыць на свеце!

* * *

...Дык як было яго "поносях", калі і сапраўды ён быў завалены справамі і клопатам. А ўсё роўна ж сабраўся з часам, прачытаў і напісаў...

"...Я не зусім вінаваты ў гэтым спазненні з адказам на Ваш рукапіс. Мне перадалі яго літаральна за два тыдні перад нашым рэспубліканскім сходам. Не меў ніякай фізічнай магчымасці пазнаёміцца з ім, бо трэба было экстранна канчаць падрыхтоўку даклада -- правільней, самы даклад. А пасля сходу я праляжаў некалькі тыдняў хворы. Я нават прасіў Піліпа Пестрака, каб ён паведаміў Вам аб прычынах майго спазнення. За час маёй хваробы ў мяне на маёй службе ў Акадэміі сабралася тэрміновых рукапісаў (па падручніках па літаратуры для сярэдняй школы) старонак на 800. Іх трэба было безадкладна адрэдагаваць, бо ўсякія тэрміны былі прапушчаныя. А тут яшчэ абарона дысертацый супрацоўнікамі нашага інстытута. А я ж, грэшным дзелам, кіраўнік альбо часам афіцыйны апанент. А дысертацыі -- гэта ж пухлыя рукапісы. А ўсё гэта адбірае вялізны кавалак часу. А тут зноў грып. Адным словам, як Марка па пеклу..."

Як яго было "поносях"...

Як быццам ён быў абавязаны рабіць мне гэту справаздачу... Але ж рабіў, дакладна ўсё апісваў, бо добра памятаў сябе "ў шкуры" маладога пачатскоўца, таму што спачуваў і яго чаканню, і яго надзеі.

Перачытваючы пісьмы Міхася Ціханавіча, я адначасова бачу і чую не толькі яго, Настаўніка, але і сябе, няўмеку і запалку, якая, не маючы ні дастатковага жыццёвага вопыту, не ведаючы нялёгкага літаратурнага працэсу, у той жа час гатова была да знямогі ўпарта адстойваць сваё (голена -- не, стрыжана!).

Самой мне сёння тое "сваё" ўяўляецца такім дзікім і штучным, а ён тады ў адказ на маю нязгоду, на той мой "кіпень" не толькі не абураецца, а нават, не ўзвышаючы голасу, адказвае мне:

"Добра, што Вы з сім-тым згаджаецеся з маіх довадаў. Добра, што адстойваеце і некаторыя мае пазіцыі. Той, хто адразу здаецца, не заўсёды сур'ёзна ставіцца да свае творчасці. Гэта не значыць, аднак, што вы да канца, як гаворыцца, правы... Вось і пачнем усё па парадку, паводле пунктаў Вашага пісьма".

І пачынае гэтак жа цярпліва зноў... Пераконваць. Тлумачыць. Аналізаваць схему паводзін і характар маіх герояў... Паўтараю: цярпліва, нават без ценю незадаволенасці, раздражнення ці, барані Божа, перавагі.

А потым, відаць, калі пісьмо ўжо напісана і перачытана, ён раптам успомніць і на палях ужо, у "P.S.", дапіша: "Забыў сказаць: у Вас цудоўна выпісана летняя граза, багата свежага, новага ў гэтым апісанні. Надзвычай удалыя фразы: "Жыта, як перац, схапілі", "Прападзе жыта ў бабках, як бачыш бараной парасце" і інш."

Вопытны Настаўнік, ён добра ведаў педагагічны плён гэтага "пастскрыптума".

І сапраўды, прачытаўшы яго, аднекуль прыходзіла раптам вырaтавальная раўнавага: ну што ж, калі кампазіцыя нязграбная. Можа, і сапраўды "пастрыгчы" трохі і сям-там "пагабляваць" раздзелы і мову, можа, і сапраўды будзе лепш... Затое навальніца ў мяне, якая свежая. І як удала ўмею пісаць я пра жыта... Не, кідаць у печ рукапіс, бадай, зусім няма патрэбы...

Яны ўмелі, нашы старэйшыя настаўнікі, вучыць маладых. Умелі заахвоціць, падтрымаць, абнадзеіць. Гэтаксама, як умелі паказаць і на неразважлівую маладую самаўпэўненасць, якая вельмі далёка ад разумнай упэўненасці.

* * *

Шчаслівы выпадак прывёў мяне не так даўно ў Каралішчавічы, якія гэтак добра ведалі Міхася Лынькова... Там кожная сцежка памятае яго крокі, а лясное рэха -- хацелася верыць! -- і дагэтуль паўтарае яго скліканне ўсіх "в'юнашаў" і "атракавіц" з карчамі, з ламаччам, з сухастоем да славутых каралішчавіцкіх вогнішчаў.

Над тымі вогнішчамі -- да самых зор! -- нязменна варажыў непаўторны язычнік Міхась Лынькоў.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**



Штогод летам у вёсцы Краглевічы Івацэвіцкага раёна праводзяць свята вёскі. Кожны з 375 жыхароў паказвае на ім сваё майстэрства. Да сельскага Дома культуры нясуць свае вырабы мясцовыя ўмельцы і майстрыхі. Тут жа арганізуецца конкурс на лепшы нацыянальны касцюм, лепшую песню ці карагод, спаборнічаюць паміж сабой музыканты.

НА ЗДЫМКУ: на свяце ў Краглевічах.

Фота Рамана КАБЯКА.

# "КАЛАСАВІНЫ" НА КОЛАСАВАЙ РАДЗІМЕ

На Стаўбцоўшчыне, дый, напэўна, не толькі там, шматлікія прыхільнікі творчага таленту знакамітага беларускага Песняра Якуба Коласа заўсёды з нецярпеннем чакаюць надыход лістапада. І, трэба зазначыць, што іх спадзяванні ніколі не бываюць марнымі, бо менавіта ў гэты час, бліжэй да чарговага дня Коласавых народзін, па ўжо ўсталяваўшайся традыцыі ў родныя паэтавы мясціны прыходзіць цудоўнае літаратурна-мастацкае свята "Каласавіны".

Не стаў выключэннем з гэтага правіла і сёлетні год: з нагоды 112-й гадавіны з дня нараджэння знанага ў свеце паэта дзесяты раз прымала стаўбцоўская зямля сваіх гасцей-"каласавінцаў". А іх, вядомых беларускіх пісьменнікаў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з Мінска, Стоўбцаў і іншых гарадоў нашай краіны, самадзейных артыстаў з некаторых мастацкіх калектываў Стаўбцоўшчыны сабралася даволі шмат. І ўсе яны сваёй прысутнасцю ажывілі размешчанае непадалёк ад Стоўбцаў урочышча Цёмныя Ляды.

Сюды, на ўскраіну вячыстага ельніку, удзельнікі "Каласавін" завіталі не выпадкова. Бо менавіта гэта мясціна, празваная некалі Цёмнымі Лядамі, мае непасрэднае дачыненне да жыццёвага шляху Якуба Коласа. Тут, у колішняй лясной каморы, пасля пярэбараў у 1904 годзе з Альбуці некаторы час працаваў лясным стражнікам старэйшы брат паэта Уладзімір, тут жа жылі і Коласавы іншыя сямейнікі: маці, браты і сёстры. Сюды ж пераехаў у верасні 1906 года пасля звальнення за ўдзел у першым нелегальным з'ездзе настаўнікаў у Мікалаеўшчыне з пасады настаўніка Верхменскага народнага вучылішча і сам Я.Колас. Крыху адышоўшы ад раптоўна наляцеўшых на яго нягод і знайшоўшы ў родных мясцінах спатолю сваёй творчай душы, малады паэт пачынае на сядзібе брата-палясоўшчыка працу па складанню "Другога чытання для дзяцей беларусаў", вельмі неабходнага на пачатку адраджэння беларускай асветы вучэбнага дапаможніка. Тут жа, у Цёмных Лядах, намаганнямі Я.Коласа была адкрыта і невялікая прыватная школка для сялянскіх дзяцей, якая сёння лічыцца першай беларускамоўнай школай, створанай на Стаўбцоўшчыне за ўсю гісторыю існавання гэтага самабытнага куточка беларускай зямлі. Зіма 1906--1907 гадоў (а менавіта гэты час правёў будучы народны паэт у братавай леснічоўцы) адкрыла і яшчэ адну рысу ягонага таленту, так бы мовіць, журналісцкую: Я.Колас цесна супрацоўнічае з беларускай легальнай газетай "Наша ніва", якая выходзіла ў Вільні. Дасланыя ім у рэдакцыю гэтага выдання допісы і карэспандэнцкія паведамленні распавядалі чытачам пераважна пра падзеі мясцовага жыцця, г.зн., роднай паэтавай старонкі.

Дык вось, маючы такія адметныя старонкі ў сваёй гісторыі, урочышча Цёмныя Ляды да нядаўняга часу не было аніяк пазначана і ўшанавана. Зрабіць гэта падчас сёлетніх, юбілейных -- дзесятых па ліку -- "Каласавін" і спадрадзіліся Літаратурны музей Якуба Коласа і, выконваючы адзін з пунктаў раённай праграмы "Спадчына", аддзел культуры Стаўбцоўскага райвыканкома. Непадалёк ад таго месца, дзе калісьці знаходзілася сядзіба ляснога стражніка, на насыпу пралягаючай тут жа чыгункі, і быў устаноўлены вялізны валун-прыгажун з мемарыяльнай дошкай, тэкст на якой назаўсёды ўвекавечыў час жыцця і настаўнічання ў Цёмных Лядах Я.Коласа.

Пачэсны абавязак урачыстага адкрыцця яшчэ аднаго мемарыяльнага знака на стаўбцоўскай зямлі і быў ускладзены на ўдзельнікаў "Каласавін". Цёплыя словы выказалі на імправізаваным літаратурным свяце ў адрас ініцыятараў увекавечвання памяці пра Якуба Коласа ў Цёмных Лядах загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкома Анатоль Грэкаў і дырэктар Літаратурнага музея Я.Коласа Зінаіда Камароўская, прачыталі свае вершы і выказалі сваё стаўленне да творчасці народнага Песняра вядомыя беларускія паэты Сяргей Грахоўскі, Вольга Іпатава і Анатоль Вярцінскі. А пасля таго, як спала белае покрыва з мемарыяльнага каменя-знака, загучала зазыўная мелодыя -- гэта ўсіх запрасілі на свой канцэрт удзельнікі народнага ансамбля "Гарэзы" з вёскі Шашкі Стаўбцоўскага раёна.

Аднак з апошнім акордам гарэзлівых "Гарэз" свята "Каласавін" не закончылася. Праз некаторы час, вызначаны пераездам з Цёмных Лядаў у Акінчыцы, яно знайшло свой працяг на дварышчы колішняй радзівілаўскай леснічоўкі, дзе нарадзіўся Якуб Колас. І тут гучалі шчырыя прызнанні ў любові да Коласавага слова, запаўнялі наваколле народныя песні ў выкананні фальклорнага калектыву з вёскі Ператокі Стаўбцоўскага раёна, свае вершы чыталі паэты Мікола Аўрамчык і Сяргей Законнікаў, пра неабходнасць ашчаднага стаўлення да народнай спадчыны і здабыткаў Коласавай творчасці яшчэ раз нагадаў прысутным драматург Аляксей Дудараў.

Пасля Акінчыц госці "Каласавін" праклалі свой шлях у іншыя мясціны малой радзімы Якуба Коласа. Пабываўшы на мемарыяльнай сядзібе-музеі ў Альбуці, яны акрамя ўсіх тамтэйшых славутасцей з цікавасцю азнаёміліся і з экспанатамі нядаўна адкрытай там выставы "Пчалярства і рыбалоўства Стаўпеччыны" і з ахвотай паглядзелі імправізаваны канцэрт, які спецыяльна для іх падрыхтавалі ўдзельнікі народнага агіттэатра "Полымя" Стаўбцоўскага Дома культуры і ўзорнага дзіцячага ансамбля "Лявоначкі". У Мікалаеўшчыне, куды ўдзельнікі свята заехалі, каб аддаць даніну павагі вялікаму Песняру, усіх віталі артысты з мясцовага народнага ансамбля "Коласавы землякі". Не абыдзена ўвагай і мемарыяльная сядзіба філіяла Літаратурнага музея Я.Коласа ў Смольні. Тут таксама былі экскурсіі і ў хату-музей, дзе ў 1912 годзе сустрэліся першы раз Колас і Купала, і ў літаратурную частку смольненскага музея, і ў размешчаную тут жа карцінную галерэю Стаўбцоўскага раёна. Спадабаўся ўсім і канцэрт, наладжаны народным калектывам "Гавязнянка" з калгаса імя Мічурына Стаўбцоўскага раёна.

Увогуле ж, сёлетнія "Каласавіны", як і кожны год, значна дапоўнілі рознабаковае культурнае жыццё Стаўбцоўшчыны і пакінулі аб сабе добрую памяць.

Сяргей ГАЛОЎКА.

# СУСТРЭЧА З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

Дзеля гэтага не на ўсе пытанні я буду даваць адказы. Акрамя таго, трэба ўсвядоміць, што сітуацыя Віленшчыны ды іншых рэгіёнаў, у якіх жывуць беларусы, розняцца ад сітуацыі меншасцяў іншых краін свету.

Усе эмігранты на свеце стараюцца вярнуцца на сваю Бацькаўшчыну. І яна сваіх выхадцаў ахвотна прымае, памагае ім. Беларуская ж Рэспубліка -- сама патрабуе дапамогі, і ёй эмігранты з замежжа памагаюць. Так, як вам памаглі ўтрымаць беларускі факультэт пры універсітэце, калі літоўскія ўлады не далі грошай на ўтрыманне гэтага факультэта ў Вільні. І, як ведаеце, ніводзін беларускі эмігрант з Амерыкі, Нямеччыны ці Аўстраліі не захацеў вярнуцца на Беларусь. Такое становішча аграбленай Беларусі. А да гэтага дабавілася яшчэ адна бяда -- Чарнобыль... Патрэбны каласальныя намаганні і мільярды валюты, каб выратаваць ад радыяцыйнай згубы амаль палавіну насельніцтва. На жаль, пра гэта ніякія чужаземныя місіі не клапоцяцца.

Адносна паводзін беларусаў у Літве, лічыць Быкаў, ёсць толькі адзін варыянт -- лаяльнасць. Усе спрэчкі і непаразуменні павінны вырашаць палітыкі і дыпламаты шляхам перагавораў і ўзаемаразумення. Іншыя спосабы, як паказала практыка ў Малдавіі, Грузіі, Латвіі, Арменіі, даводзяць да катастрофы альбо, прынамсі, да цяжкіх стратаў.

Раніцай наступнага дня адбылася сустрэча з педагогамі і вучнямі аднаўленай Віленскай беларускай гімназіі. Нялёгкім быў шлях да адраджэння гэтай школы. Пасля 50-ці гадоў забароны беларускай мовы ў школе толькі ў часе гарбачоўскай дэмакратызацыі ўдалося наладзіць у Вільні факультатыўнае выкладанне беларускай мовы ў 2 школах раз у тыдзень. Першымі выкладчыкамі былі Алдона Папова і Галіна Сівалава. А падала ініцыятыву маладая настаўніца -- Ніна Афоньха. Нарэшце Таварыства беларускай культуры дабілася дазволу на адкрыццё нармальнай беларускай школы. Спярша гэта быў беларускі дзіцячы садок, а пасля на яго базе арганізаваліся першыя класы гімназіі. І сёння ў гэтай школе ўжо вучыцца 140 дзяцей. Ёсць рэальныя падставы спадзявацца на поўнае адраджэнне Віленскай беларускай гімназіі.

Усе педагогі з дырэктарам школы Галінаю Сівалавай і вучнямі чакалі цікавай сустрэчы з вядомым пісьменнікам.

Пасля ўрачыстага прывітання і кароткіх прамоваў пасыпаліся пытанні, на якія ледзьве паспяваў адказваць дастойны госць.

Шчырасць і прастата пісьменніка спрыялі хуткаму ўзнікненню поўнага даверу і цёплых, сяброўскіх узаемаадносін. З розных бакоў чуліся пытанні пра жыццё Васіля Быкава, пра яго дзяцінства, пачатак літаратурнай працы, адносіны між ім і "высокім начальствам", пра рэальнасць напісанага і яго герояў, над чым ён цяпер працуе і г.д.

-- Перш за ўсё хачу выказаць радасць з гэтай сустрэчы, -- гаварыў Быкаў. -- Вы з'яўляецеся спадкаемцамі слаўных традыцый даўнейшай Віленскай беларускай гімназіі, якой кіраўнікамі і выхаванцамі былі Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Барыс Кіт, Лекант-Сакалова, прафесар Тропка, ксёндз Адам Станкевіч і іншыя выдатныя дзеячы. З гэтай гімназіі выйшла многа таленавітых і заслужаных патрыётаў нашай зямлі. Некаторыя з іх вядомы далёка за межамі роднага краю. Спадзяюся, што і вы станеце дастойнымі людзьмі і пакінеце добры след у нашай гісторыі.

На сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў Літвы прысутнічалі дыпламаты, літаратары, вучоныя, грамадскія дзеячы беларускіх літоўскіх згуртаванняў. Вядомы беларусіст -- Альма Лапінскене цёпла павіншавала Васіля Быкава з яго юбілеем, 70-годдзем, і падзякавала за магчымасць такой патрэбнай і прыемнай сустрэчы.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Вітаўтас Марцінкус падкрэсліў, што на працягу доўгіх стагоддзяў нашы народы падтрымлівалі моцныя сувязі. Адведзіны славутага пісьменніка Беларусі будуць спрыяць аднаўленню традыцыйнага супрацоўніцтва не толькі беларускіх і літоўскіх літаратараў, але і нашых народаў. Гэтага, бясспрэчна, патрабуе сённяшні час.

Пасля многіх выступленняў і запытанняў Васіль Быкаў сказаў:

-- Мілыя калегі, браты нашага трагічнага, аднолькавага лёсу! Дарагія літоўцы! Нас звязала сама гісторыя. Развал бальшавіцкай імперыі стварыў яшчэ шырэйшыя перспектывы для нашых сумесных дзеянняў. На сённяшнім этапе любыя спрэчкі між нашымі дзяржавамі павінны вырашаць гісторыкі. А мы заўсёды і ўсюды павінны прытрымлівацца правіл, устаноўленых Хельсінкскімі пагадненнямі. У мяне былі і засталіся самыя цёплыя пачуцці і адносіны да Літвы і яе незалежнасці.

Сёння Літва і ўся Прыбалтыка дабіліся свае незалежнасці. Беларусь ідзе па тым жа самым шляху. Але нашаму народу камунізм шмат больш нашкодзіў. Спатрэбіцца нямала ахвяраў для дасягнення поўнага суверэнітэту. Дапамога суседзяў тут можа адыграць вельмі значную ролю.

# ВЕЧАРЫНА Ў ВІСАГІНАСЕ

На пачатку лістапада беларусы Вісагінаса (б. Снечкус, там, дзе размешчана Ігналінская АЭС) дачакаліся сустрэчы з канцэртнай групай віленскіх артыстаў.

К вечару канцэртная зала ў Палацы культуры будаўнікоў запоўнілася народам. Сабралася каля 300 чалавек, каб паслухаць сталічных артыстаў і пагаварыць пра бягучыя справы са сваімі землякамі. І не пашкадавалі ахвяраванага часу. Прыехаў знаны беларускі спявак, вучань слаўнага Бэноні і Шырмы -- Леанід Мурашка, піяністка Галіна Знайдзілеўская, Нарэйка-Краўтар і Марыя Крупавес. Гэта папулярныя і таленавітыя прадстаўнікі музычнага асяроддзя Вільні, якіх ведаюць па-за межамі Літвы.

Адначасна прыбыў прадстаўнік беларускага дыпламатычнага корпуса -- спадар Уладзімір Шчасны. Гасцей сустрэлі гучнымі воплескамі і кветкамі.

Канцэрт распачаўся фартэпіяннай музыкай Галіны Знайдзілеўскай, якая натхнёна выканала творы Фрэдэрыка Шапэна.

З багатай праграмаю выступіў спявак Леанід Мурашка. Ён выканаў песні і кампазіцыі ў арыгінале: на беларускай, літоўскай, італьянскай і расійскай мовах. Цудоўна гучала "Цявіне" кампазітара Раўдонікіса; "Лясная песня" Алоўнікава; "Ідуць белыя снегі" Калманоўскага; "Не глядзі на другіх" Семянякі; "Забыць так скора" і "Фларэнцыйская песня" Чайкоўскага; "Не хачу" Булахава і арыя з оперы "Дон-Жуан".

Грымелі воплескі, сыпаліся кветкі, гучала "біс". Прыйшлося яшчэ дабавіць "А ў месяцы верасні" і "Чаму ж мне ня пецъ". Захапленню не было канца пасля выканання дуэтам Наталлі Нарэйка -- Л. Мурашкі папулярнай лірычнай песні Сяргея Новіка-Пяюна "Зорачкі".

Як заўсёды, пасняхова выканала свой рэпертуар на беларускай, літоўскай, польскай і габрэйскай мовах Марыя Крупавес. Асаблівая цеплыня, шчырасць і глыбокі лірызм яе выканання заўсёды палоняць і глыбока ўзрушаюць слухачоў.

Нацыянальнай песняй "Магутны Божа" закончыў канцэрт Леанід Мурашка. Знаны і паважаны ўсімі віленчукамі дыпламат Уладзімір Шчасны расказаў прысутным, якую працу выконвае беларускі дыпламатычны корпус у Літве, якіх працэдураў вымагае атрыманне візы ці іншых дакументаў.

Са смуткам развіталіся вісагінцы з выканаўцамі канцэрта, горача запрашаючы іх на наступныя сустрэчы.

Аляксей АНІШЧЫК.

# НАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ ПОШТЫ

Сярод нядаўна выпушчаных мастацкіх канвертаў беларускай пошты, канверт, прысвечаны 975-годдзю Брэста, бадай, самы цікавы. Мастак В.Замулка паказаў на малюнку старажытны герб горада, вядомы з XVI стагоддзя: на блакітным полі лук са стралой, накіраванай вастрыём угару. Адлюстраванне герба дадзена на фоне стужкі з колерамі дзяржаўнага флага Беларусі. На стужцы даты "1019--1994". Пад малюнкам надпіс "Берасце". Ніз малюнка вянчае юбілейны тэкст "975 год з дня заснавання г.Брэста". Адзначу, што ў 1969 годзе ў філатэліі адлюстраваны і 950-гадовы юбілей горада над Бугам. Тады прымяняўся спецыяльны штэмпель для гашэння карэспандэнцыі на гарадскім вузле сувязі. У малюнку штэмпеля, акрамя юбілейнага тэкста "950 гадоў гораду Брэсту", былі паказаны медаль "Залатая Зорка" і Холмская брама Брэсцкай крэпасці. На малюнку новай паштовай карткі, выдадзенай Міністэрствам сувязі рэспублікі да 50-годдзя вызвалення Брэста ад фашыстаў, -- адлюстраванне Холмскай брамы Брэсцкай крэпасці, Вечнага агню, агнёў пераможнага салюта і букета гваздзікоў. На марцы гэтай паштовай карткі мастак Л.Варэца паказаў старажытны герб (вядомы з XVI стагоддзя) горада на фоне гвардзейскай стужкі і кветак каштана.









Парадавала пошта філатэлістаў і выпускам новых марак. Дзвюма мініяцюрамі падоўжана гербавая серыя. На гэты раз на марках паказаны гербы Віцебска і Гродна. Старажытны герб Віцебска быў нададзены гораду 17 сакавіка 1597 года. Герб Гродна -- у блакітным полі алень з залатым крыжам паміж рагамі -- вядомы з XVI стагоддзя.

У першай палове кастрычніка Міністэрства сувязі выпусціла ў паштовае абарачэнне дзве паштовыя мініяцюры, прысвечаныя архітэктурным помнікам Беларусі. Гэта нібыта працяг серыі мініяцюр 1992 года, што расказваюць пра шэдэўры беларускага дойлідства. Адна з марак новай серыі прысвечана Петрапаўлаўскаму сабору ў Гомелі. Гэты помнік архітэктуры быў пабудаваны ў 1809--1819 гадах архітэктарам Дж.Кларкам. У савецкі час у саборы размяшчаўся планетарый. І гэта адлюстравана ў філатэліі. У 1964 годзе Міністэрства сувязі СССР выпусціла паштовы канверт з адлюстраваннем сабора. Надпіс на канверце гаворыць: "Гомель. Будынак планетарыя". На другой марцы паказана Міхайлаўская царква ў вёсцы Сынковічы. Вёска гэтая знаходзіцца ў Зэльвенскім раёне Гродзенскай вобласці, непадалёку ад Слоніма. Сынковіцкі храм -- унікальнае архітэктурнае збудаванне. Гэта царква-крэпасць, помнік беларускага абарончага дойлідства. Такія храмы ўваходзілі ў сістэму гарадскіх умацаванняў, а ў сельскай мясцовасці з'яўляліся асобнымі пунктамі абароны. Міхайлаўская царква унікальная яшчэ і тым, што яна захавалася да нашых дзён амаль без перабудоў. Сцены гэтага унікальнага храма-крэпасці зроблены з вялікамерных чырвонай цэглы, у фундаменце выкарыстаны і бутавы камень. Храм мае добра прадуманую сістэму абароны: 4 вуглавыя вежы з байніцамі і лесвіцамі па ўсёй вышыні, сістэму байніц для блізкага і далёкага бою пад скляпеннямі. Байніцы маюць форму выцягнутых у даўжыню чатырохкутнікаў, усе яны расшыраюцца вонкі для зручнасці вядзення бою.

Філатэлісты атрымалі ад Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі цудоўны падарунак. Маркі выпушчаны ў добрым мастацкім афармленні. Мастак М.Бялоў з любоўю аформіў гэтыя дзве мініяцюры.

У дзень выхаду паштовых марак у абарачэнне на мінскім паштамце было арганізавана спецыяльнае гашэнне "Першы дзень".

**Леў КОЛАСАЎ.**



**Такія грыбы-веліканы можна ў Беларусі знайсці даволі рэдка. На гэты раз пашчасціла старшаму ўпаўнаважанаму крымінальнага вышуку горада Салігорска Уладзіміру Кучынскаму. Вага грыба-дажджавіка 8,4 кілаграма.**

**Цяпер грыб служыць упрыгажэннем вучэбнага класа аддзялення міліцыі.**

**Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ.**

## СПОРТ

### НА ЎСІХ УЗРОЎНЯХ

Спорт у нашай рэспубліцы, як і эканоміка, перажывае нялёгкія часы. Крызіс, энергетычны, фінансавы, значна ўплывае і на дасягненні спартсменаў, і на ўдзел іх у турнірах, чэмпіянатах.

На першынстве свету па спартыўнай гімнастыцы, якое нядаўна закончылася ў Германіі, наша мужчынская каманда адправілася на чале з чэмпіёнамі Алімпійскіх гульняў і свету Віталем Шчэрбам і Іванам Іванковым. Меркавалася, што зборная Беларусі калі не стане мацнейшай, то абавязкова зойме прызавое месца.

Але гэтага не адбылося. Гімнасты сталі толькі чацвёртымі, нягледзячы на тое, што нашы чэмпіёны ў неафіцыйным заліку набралі найбольшую колькасць балаў. Астатнія члены зборнай рэспублікі не змаглі падтрымаць лідэраў. Бо...

"Бо не было элементарных умоў для трэніровак, -- з горыччу гаварылі трэнеры гімнастаў. -- Дома ў спартыўнай зале літаральна замярзалі. Адрацоўвалі практыкаванні ў... цёплых спартыўных касцюмах, а не ў трыко. Крышачку спынішся, каб адпачыць, перавесці дух, як холад скоўвае гімнаста".

Недахоп грошай не дазваляе беларускім спартсменам удзельнічаць у многіх спаборніцтвах ці выступіць на іх у поўную сілу. Апошняе, дарэчы, тычыцца гандбольных клубаў рэспублікі, якія ўдзельнічалі ў Еўрапейскіх кубкавых турнірах. Усе яны выступілі няўдала. А маглі б разлічваць на поспех, каб у паўторных гульнях прымалі сапернікаў дома. Толькі не было грошай для нармальнага прыёму гасцей.

Не хацелася б гэты кароткі агляд заканчваць на мінорнай ноце. Часам знаходзяцца спонсары, што выдаткоўваюць грошы спартсменам, выступленне якіх для кіраўнікоў фірм, арганізацый з'яўляецца справай прэстыжу і гонару ўсяго беларускага спорту.

Здаволімся кароткім пералікам галоўных турніраў і першынстваў, дзе, паўторымся, спонсары дапамаглі нашым спартсменам добра падрыхтавацца да адказных стартаў.

У Турцыі мінская ватэрпольная каманда "Прыор" заняла другое месца ў папярэдніх матчах за Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў і выйшла ў наступны круг.

Беларускія шашысты-міжнароднікі Аляксандр Балякін і Анатоль Гантварг пасля паловы дыстанцыі (працягласцю два тыдні) першынства свету знаходзяцца ў ліку лідэраў.

Перамогай баскетбалістаў сталічнай каманды РУАР завяршыўся міжнародны турнір. Беларускія хлопцы ў рашаючай гульні з масквічамі выйгралі з лікам 61:58.

**Яўген ІВАНОЎ.**

**Яўген ГУЧОК**

## МІНІЯЦЮРЫ

### СОНЦА

***

**А мо наша сонца**
**Толькі нябесная цела,**
**Што чужое святло адбівае!**

***

**Хай зробіцца сэрца тваё**
**як сонца --**
**Хай знойдзецца месца**
**У небе табе!**

***

**У яго такая якасць,**
**Што апроч паверхаў, дахаў,**
**Сонца мкне і ў сутарэнні.**

***

**Кожны дзень мы ўдачу маем:**
**Кожны дзень**
**уздымаецца сонца**
**... над намі.**

***

**Калі да чаго і**
**прыслоніцца сонца,**
**Дык гэта --**
**Да вечнасці.**

***

**Ценю**
**Не мае**
**Адно толькі сонца.**

***

**Хто хоча быць**
**сынам сонца, --**
**Хай будзе...**
**Яно не адмовіць.**

***

**Любая малая травінка**
**І яна для сонца --**
**Прыстанішча.**

***

**Гарыць-асыпаецца сонца**
**І кветкамі ў лузе**
**Узыходзіць.**

***

**Цікае сонца,**
**А яму адгукаюцца**
**Сок -- у сцяблінках,**
**у жылах крыў.**

***

**Самадуры**
**І на сонца**
**Злуюцца.**

***

**Простая мара ў сонца --**
**Хай душы людскія**
**Запальваюцца ад яго.**

***

**Саскочыла з сонца**
**Зайчыкаў процьма,**
**І ні адзін не разбіўся.**

***

**А збожжа, відаць,**
**Пачалося**
**На сонцы.**

### ДА ЎВАГІ ЗАМЕЖНЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Шаноўныя сябры!**

**Звяртаем вашу ўвагу, што ў выпадку затрымак нашай газеты або іншых заўваг (накшталт выкарыстання беларускай мовы паштовай службай Беларусі) і г.д. свае пісьмы і скаргі дасылайце на імя кіраўніка дзяржаўнага прадпрыемства "Мінская пошта", якое адказвае за дастаўку газеты "Голас Радзімы": Беларусь, 220055, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 10. Малыка А.І.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 48. Падпісана да друку 28. 11.1994 г.